# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№ 39** (2493) 26 верасня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.


## ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА

**Мемарыяльная дошка памяці вядомага літаратара, крытыка, педагога, прафесара Уладзіміра Калесніка з'явілася на фасадзе дома N 10 па вуліцы Чапаева ў Брэсце, дзе ён доўгія гады жыў і тварыў. На адкрыццё памятнага знака сабраліся саратнікі і вучні У.Калесніка, кіраўнікі вобласці і горада, жыхары, студэнты вышэйшых навучальных устаноў.**

**НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльная дошка на доме N 10 па вуліцы Чапаева ў Брэсце; выступае першы лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Калесніка крытык Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**

Фота Рамана КАБЯКА.






*СЛОВА ПРА ЦЁТКУ*

## НА ПОЛЫМІ ЛЮБОВІ

СЁЛЕТА споўнілася сто дваццаць гадоў з дня нараджэння славутай беларускай паэткі Цёткі -- Алаізы Пашкевіч. Яна была не толькі паэткаю, але і вучонаю, рэдактарам, настаўніцаю, медыцынскім работнікам, артысткаю. У час рэвалюцыі 1905 года Цётка актыўна ўдзельнічала ў рэвалюцыйным руху, з'яўлялася членам рэвалюцыйнай арганізацыі ў Нова-Вілейскай лячэбніцы, дзе працавала фельчаркаю.

Крытыкі, даследчыкі творчасці Цёткі звычайна рабілі найбольшы акцэнт на яе рэвалюцыйнай дзейнасці, рэвалюцыйнай паэзіі. І сапраўды, немагчыма было абмінуць гэтыя старонкі яе жыцця, творчасці, тым больш, што яны вельмі добра пасавалі да ідэалогіі, якую спавядалі камуністы. Цётка сапраўды была актыўным удзельнікам рэвалюцыі 1905 года, а яе паэзія, можна сказаць, -- летапіс тых падзей. Такія вершы, як "Хрэст на свабоду", "Мора", апявалі, услаўлялі народны рух супроць самаўладства, віталі парыў народа да волі, да свабоды. У вершы "Мора" Цётка ўвасабляе гэты народны рух у вобразе бурнага мора.

**Мора вуглем цяпер стала,**
**Мора з дна цяпер гарыць,**
**Мора скалы пазрывала,**
**Мора горы хоча змыць.**

І далей:

**Такі бой вякамі жджэцца,**
**Такі бой гігантаў дасць,**
**Ў такім бою толькі грэцца,**
**Ў такім бою толькі пасць!**

Паэзія Цёткі той пары поўніцца вобразамі буры, маланкі, грому, разгневанай стыхіі, якія ўвасабляюць народны парыў, яго надзею на вызваленне ад ланцугоў нявол.

Цётка была такой шчырай прыхільніцай рэвалюцыі, бо спадзявалася ў выніку яе перамогі на стварэнне вольнай Беларусі, дзе народ будзе гаспадаром сваёй зямлі. На гэта спадзяваліся і літоўцы, латышы, палякі, іншыя народы ўскраін царскай Расіі, якія стваралі свае партыі, змагаліся за сваю незалежнасць.

Але вось рэвалюцыю задушылі, яна прынесла толькі шмат пакут народу, здабыткі яе аказаліся мізэрныя, і ўсё ж беларусы ўхапіліся за нязначныя дробачкі свабоды, дадзеныя царскім маніфестам. Беларусы набылі магчымасць выдаваць свае газеты, часопісы, яны здолелі арганізаваць у Пецярбургу нават сваё выдавецтва -- "Загляне сонца і ў наша аконца". Гэты перыяд у жыцці беларускай інтэлігенцыі сёння называюць Адраджэннем, і Цётка вельмі актыўна ўключылася ў яго і тут, на гэтай ніве, зрабіла для свайго народа найбольш.

Карыстаючыся дазволам на выданне нацыянальнага друкаванага слова, беларусы ў 1906 годзе выдаюць сваю першую легальную газету "Наша Доля", і Цётка прымае актыўны ўдзел у яе арганізацыі. Яна шмат працуе над кожным нумарам, піша артыкулы, правіць матэрыялы. Змяшчае тут і свае творы -- вершы і знакамітае сваё апавяданне "Прысяга над крывавамі разорамі", дзе зноў вобразамі-сімваламі малюе гаротнае сялянскае жыццё і паказвае шлях да вызвалення яго з нядолі.

Але век газеты быў кароткі, выйшла ўсяго шэсць нумароў, царская цэнзура забараніла "Нашу Долю" за крытыку самаўладства, за яе радыкалізм, за настроі мінулага, пятага года.

За ўдзел у рэвалюцыйнай арганізацыі, за выступленні на мітынгах, за распаўсюджванне рэвалюцыйных праклamацый на беларускай мове Цётка была прыцягнута да судовай адказнасці і, каб пазбегнуць арышту, была вымушана выехаць у эміграцыю.

Спынілася ў Львове, паступіла вольнаю слухачкаю ва Львоўскі універсітэт на філасофскі факультэт. Але думкамі, клопатам была на радзіме і тут, у эміграцыі, імкнулася ёй служыць. Як? Вядома, друкаваным словам. Недалёка ад Львова, у ціхім, прыгожым старадаўнім гарадку Жоўкве, у друкарні, што змяшчалася пры Базыльянскім манастыры і друкавала духоўныя кнігі, Цётка наладжвае выданне кніг на беларускай мове. У лісце да пецярбургскага прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы яна піша: "Цяпер покі што буду друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, дык не ведаю, як чаго трымацца".

Цётка пытаецца ў пісьме, што чуваць з букваром. Яна мела на ўвазе лемантар, які склала і чакала яго выхаду ў выдавецтве "Загляне сонца і ў наша аконца". Цётка пачынала з нуля, з чыстага месца ў беларускай грамаце. Не мелі беларусы да яе нават буквара, яна першая склала яго і выдала ў 1906 годзе.


**(Заканчэнне на 6-й стар.).**


*БЕЛАРУСКІЯ МАСТАКІ Ў РЫМЕ*

## У ВЕЧНЫМ ГОРАДЗЕ ЧАЛАВЕК — З'ЯВА ЧАСОВАЯ

Напрыканцы мінулага года Беларускі фонд Сораса абвясціў конкурс пад назвай "Вечныя гарады" (Рым, Афіны, Іерусалім). На конкурс падалі заяўкі некалькі дзесяткаў чалавек. У намінацыі "Вечны горад Рым" перамаглі мастак Мікола Купава і фотамастак Міхась Баразна. Як пераможцы, правялі яны дзесяць дзён у жніўні ў сталіцы Італіі, дзе мелі магчымасць адчуць подых далёкай даўніны, адшукаць сляды беларусаў у Рыме і прайсці іх сцежкамі, набрацца ўражанняў ды прыйсці да высновы, што чалавек у вечным горадзе -- з'ява часовая.

Здаецца, кожны мастак марыць хоць аднойчы у сваім жыцці трапіць у Рым -- сусветную скарбніцу помнікаў антычнасці, сярэднявечча, дзе старажытнае дапаўняе сучаснае, неверагодным чынам спалучаецца і суіснуе ў прасторы. Увогуле на Захадзе падарожжа ў Рым, Парыж ці іншы горад, які можа ўяўляць цікавасць для мастака або кожнага, хто займаецца архітэктурай ці мастацтвам, ніяк не лічыцца падзеяй. Ва ўсім свеце даўно зразумелі, што знаёміцца і вывучаць жывапіс, архітэктуру, іншыя ўзоры мастацтва лепей па арыгіналах, чым па здымках у падручніках. Вось і едзе ў Рым творчы люд з усяго свету, каб пабачыць на свае ўласныя вочы Рафаэля і Мікеланджэла, Джота, Тыцыяна і іншых, прычым дазволіць сабе гэта там могуць людзі, матэрыяльнае становішча якіх лічыцца даволі сціплым.


**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ПАСТАНАВІЎ*

### РЭФЕРЭНДУМ ПРЫЗНАЧАНЫ НА 24 ЛІСТАПАДА

**Вярхоўны Савет назначыў рэспубліканскі рэферэндум, ініцыятарам якога выступіў Прэзідэнт, на 24 лістапада. Акрамя чатырох прэзідэнцкіх пытанняў у апытальныя лісты будуць уключаны яшчэ тры, прапанаваныя парламентам.**

**Фактычна ў адзін дзень павінны адбыцца два альтэрнатыўныя па змесце рэферэндумы.**

**Асноўныя два пытанні тычацца праектаў Канстытуцыі -- прэзідэнцкага і парламенцкіх фракцый камуністычнай і аграрнай партый. Дэпутацкі праект Канстытуцыі прапануе вярнуцца да парламенцкай рэспублікі, скасаваўшы інстытут прэзідэнцтва.**

**Дадаткова Вярхоўны Савет прапануе выказацца аб выбарах кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады непасрэдна жыхарамі гэтых рэгіёнаў і аб фінансаванні ўсіх галін улады ў рэспубліцы выключна з дзяржаўнага бюджэту.**

**Прэзідэнт мае намер параіцца з народам акрамя канстытуцыйнай праблемы яшчэ па трох пытаннях: аб адносінах грамадзян Беларусі да свабоднай, без абмежаванняў куплі-продажу зямлі, аб тым, ці трэба адмяняць у краіне смяротнае пакаранне, і аб пераносе Дня незалежнасці (Дня рэспублікі) з 27 ліпеня на 3 ліпеня -- Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**Чатыры пункты ў бюлетэнях будуць насіць абавязковы характар --аб варыянтах Канстытуцыі, аб выбарах кіраўнікоў мясцовай улады і аб Дні незалежнасці. Астатнія тры пытанні выносяцца на кансультатыўны рэферэндум, рашэнні якога будуць мець рэкамендацыйны характар.**

**Такім чынам, рэферэндум мяркуецца правесці разам з давыбарамі дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых Саветаў у апошнюю нядзелю лістапада. Па словах першага намесніка спікера парламента Васіля Новікава, гэта дасць магчымасць зэканоміць каля 15 мільярдаў рублёў дзяржаўных грошай. Абодва праекты Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, на думку лідэра фракцыі камуністаў, абавязкова неабходна падвергнуць незалежнай міжнароднай прававой экспертызе.**

*"Паважаныя дэпутаты, перад вамі, як і перад усімі жыхарамі краіны, ёсць два праекты Канстытуцыі. Падабаецца некаторым з вас прэзідэнцкі праект і тое грамадства, якое будзе пабудавана згодна з гэтай Канстытуцыяй, калі ласка, галасуйце за яго, але не шальмуйце і не гвалтуйце тых, хто выступае супраць гэтага цемрашальства, як его называюць тыя, хто прачытаў гэты праект, -- добрасумленныя нашы і замежныя юрысты.*

*І тут ужо гаворка ідзе не аб тым -- падтрымліваеце вы Прэзідэнта альбо Вярхоўны Савет. Так пытанне ніколі не ставілася. І прэзідэнт, і дэпутаты абраныя народам. Хіба ж можна пытанне ставіць: каго хто падтрымлівае? І адны, і другія падтрыманы народам. Так ставіць пытанне могуць толькі нядобрасумленныя людзі.*

*Пытанне стаіць аб тым, якой быць Канстытуцыі, а значыць і грамадству. І, каб знайсці ўзаемапаразуменне ў вырашэнні гэтага пытання, зразумела, мэтазгодна адклікаць абодва праекты і стварыць пагадняльную камісію, якая ўлічыла б усе заўвагі. Дарэчы, на запыт кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў аб гэтым я адказаў станоўча ў пісьмовай форме.*

*Думаю, было б правільна, каб сёння ці заўтра мы яшчэ раз звярнуліся з прапановай да Прэзідэнта аб адкліканні абодвух праектаў Канстытуцыі, склалі пагадняльную камісію і прыйшлі да нейкай згоды, бо ўсе астатнія выказванні аб тым, што потым будуць улічаны ўсе заўвагі, -- гэта падман. Калі людзі прагаласуюць, -- усё застанецца на месцы.*

*Што датычыцца мяне, дык мне, калі чытаў праект прэзідэнцкай Канстытуцыі, шчымела сэрца ад болю за свой народ і будучыню маёй краіны, якая яе чакае, калі, барані Божа, прыйдзецца жыць згодна з такім Асноўным Законам. І дзе б я ні працаваў -- старшынёй калгаса, выкладчыкам у вышэйшай партшколе альбо Старшынёй Вярхоўнага Савета, -- я даў бы гэтаму праекту тую ацэнку, якую я даю сёння. Разам з тым я скажу, што не ўсё мне падабаецца і ў другім праекце".*

*(З выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКАГА на другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання 17 верасня 1996 года).*

*ДЫЯГНАЗ -- ЧАРНОБЫЛЬ?..*



**Чалавек упаў на вуліцы, вакол сабраліся людзі. Такія выпадкі на Гомельшчыне сёння не рэдкія. Ішоў на працу, упаў: спынілася сэрца. Як сведчыць статыстыка, на гэта ў асноўным пакутуюць мужчыны ва ўзросце ад 40 да 50 гадоў, дыягназ -- сардэчная недастатковасць. Яшчэ некалькі гадоў назад такой смяротнасці не назіралася, а вось цяпер, праз 10 гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы, яна, на жаль, расце.**

*ЗВАРОТ У КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД*

### ПРАПАНОВА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі 16 верасня 1996 года звярнуўся ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь з прапановай аб праверцы адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню" ад 6 верасня 1996 года.**

**Як вядома, згодна з часткай другой артыкула 149 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, "змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэферэндум". Разам з тым дзеючая Канстытуцыя не прадугледжвае магчымасці прыняцця новага Асноўнага Закона шляхам рэферэндуму. Згодна з указанай Пастановай Вярхоўнага Савета ад 6 верасня на рэспубліканскі рэферэндум выносяцца два праекты фактычна новых канстытуцый, якія карэнным чынам мяняюць сістэму вышэйшых дзяржаўных органаў і ўзаемаадносіны паміж імі. Ініцыятарамі праектаў прапануецца зусім новая мадэль арганізацыі ўлады.**

**Усё гэта і з'явілася прычынай на падставе артыкула 127 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь унесці ў Канстытуцыйны суд Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім гэту прапанову.**

*СТАРАЯ ХВАРОБА*

### ПЕДАГОГІ ЗНОЎ БЕЗ ЗАРПЛАТЫ

**З пачаткам новага навучальнага года зноў адзначаецца рэзкі ўзлёт запазычанасці па выплаце заработнай платы работнікам адукацыі. Жнівеньскіх грошай настаўнікамі не атрымана ў рэспубліканскім маштабе на суму 22,5 мільярда рублёў. Найбольшыя лічбы доўгу за Мінскай вобласцю -- 8,004 мільярда рублёў, Гродзенскай -- 5,66 і Віцебскай -- 5,017. Крыху лепшае становішча на Брэстчыне -- 2,375 і Гомельшчыне -- 1,479.**

*ВЫСТАВЫ*

**Каля двухсот удзельнікаў з 15 краін, у ліку якіх ЗША, Германія, Расія, сабрала ў гэтым годзе міжнародная спецыялізаваная выстава "Будпрагрэс-96". Яна праходзіць у выставачным комплексе "Мінск-экспа" ўжо чацвёрты раз.**

**Спектр прадстаўленых экспанатаў надзвычай шырокі: машыны, абсталяванне, сродкі механізацыі, інструменты, высокаэфектыўныя вырабы прамысловасці будаўнічых матэрыялаў і будаўнічай індустрыі.**



*СВАБОДА СЛОВА*

### ХАЙ ПАСПРЫЯЕ ПРЭЗІДЭНТ

**Менавіта гэтая праблема прымусіла віцэ-спікера беларускага парламента Васіля Новікава звярнуцца з адкрытым лістом да Аляксандра Лукашэнкі.**

**Аўтар ліста скардзіцца на старшыню Нацыянальнай радыёкампаніі Рыгора Кісяля, які не дае кіраўніцтву Вярхоўнага Савета магчымасці афіцыяльна пракаменціраваць рашэнне парламентарыяў аб правядзенні рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню.**

**Як паведамляе ў сваім лісце віцэ-спікер, спадар Кісель проста праігнараваў накіраванні яму 9, 10, 11 і 12 верасня парламенцкім кіраўніцтвам лісты з просьбай прадаставіць 15 хвілін эфірнага часу ў праграме АТН "Дыялогі".**

**Васіль Новікаў бачыць у гэтым парушэнне Канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам права на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, і спадзяецца, што Прэзідэнт выкарыстае свае паўнамоцтвы "для вырашэння гэтай сітуацыі".**

*КАСЦЮКОВІЦКІ ЦЭМЕНТ*



**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА прыняў удзел у пуску першай чаргі Беларускага цэментавага завода ў Касцюковічах Магілёўскай вобласці.**

**НА ЗДЫМКУ: першая чарга Беларускага цэментавага завода.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПАВОДЛЕ звестак Міністэрства фінансаў Беларусі, за восем месяцаў 1996 года даходная частка бюджэту выканана на 52 працэнты, расходная -- на 50 працэнтаў. Бюджэтны дэфіцыт склаў каля 2 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукта.

ЗА АПОШНІЯ тры гады ў пасажырскіх цягніках, што ідуць па тэрыторыі Расіі, Беларусі і Польшчы, 53 разы адбываліся грабяжы. Спецыялісты лічаць, што на гэтых рэйсах дзейнічаюць міжнародныя крымінальныя групы. Яны валодаюць інфармацыяй аб пасажырах, якія вязуць каштоўнасці або вялікія сумы грошай.

ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛОВАЯ палата Беларусі прынята ў Міжнародную гандлёвую палату, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Парыжы. За такое рашэнне прагаласавалі ўсе ўдзельнікі гэтай уплывовай знешнеэканамічнай арганізацыі, заснаванай яшчэ ў 1920 годзе.

МІЖНАРОДНАЯ сістэма КОМПАСС пачала збор інфармацыі аб вытворчасці тавараў і паслуг у Беларусі. Інфармацыя будзе ўключана ў трэцяе выданне даведніка "КОМПАСС -- БЕЛАРУСЬ". Дагэтуль міжнародная сістэма КОМПАСС мела пастаянна абнаўляемыя базы даных пра 1 200 000 кампаній больш чым у 70 краінах свету.

ЗАЦВЕРДЖАНЫ праект рэканструкцыі аэрапорта ў Гомелі. Ён атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў. Адзначаецца не толькі арыгінальнае эстэтычнае рашэнне, але і тэхнічная дасканаласць. Рэканструкцыя дасць магчымасць павялічыць прапускную здольнасць аэрапорта.

СЛАВУТАЯ наша бульба не вытрымлівае канкурэнцыі на расійскім рынку. Польскія фермеры прадаюць там бульбу па 70 долараў за адну тону. Беларуская ж калгасная-саўгасная каштуе не менш як 100 долараў за тону. А каб захаваць рэнтабельнасць бульбаводства, Беларусь павінна сёлета рэалізаваць на знешнім рынку да 300 тысяч тон бульбы.

# ІДЗЕ ВАЙНА. АЛЕ, НА ШЧАСЦЕ, НЕ НАРОДНАЯ

**На Беларусі зноў класічнае: "паны б'юцца, у мужыкоў чубы трашчаць" -- у разгары чарговая вайна паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам. Парламент XII склікання быў цалкам і досыць хутка выканаўчай уладай пераможаны. Сёння надышла чарга іх пераемнікаў -- новых дэпутатаў. У гэтай сітуацыі здаюцца дзіўнымі два моманты. Першы: А. Лукашэнка не здолеў (ці не пажадаў) "падружыцца" з новымі народнымі абраннікамі, што было цалкам магчыма і значна бяспечней. Другі, як гэты Вярхоўны Савет раптам пачаў супрацiўляцца выключнай для яго ролі "хлопчыка для біцця". Калі сочыш, як развіваюцца падзеі, складваецца ўражанне, што дагэтуль найбольш рэальна ацэньваў стан грамадства і свае шансы менавіта Прэзідэнт, а таму і нязменна перамагаў. Аморфнасць, адсутнасць палітычнай волі яго апанентаў стала хваробай амаль невылечнай. Безумоўна, сярод дэпутатаў шмат вельмі і вельмі прыстойных людзей. Але для палітыкі толькі гэтых якасцей занадта мала. А ў выніку націск з аднаго боку так і застаецца неўраўнаважаным адпаведным адказам з другога.**

**І вось з'явіўся амаль ці не апошні, агульны для ўсіх аргумент у доўгай спрэчцы: "народ разумнейшы за нас усіх, ён разбярэцца". Толькі загучаў ён з рознымі інтанацыямі. У інтэрпрэтацыі Прэзідэнта і яго акружэння -- з надзеяй, як апраўданне ўсіх сваіх учынкаў. З лагера апазіцыянераў -- таксама з надзеяй, але пагрозліва. Зразумела, нехта з іх памыляецца. Магчыма, час хутка адкажа -- хто.**

**А пакуль процiборства нарастае. І чым больш бесцырымонныя метады выкарыстоўвае цяперашняя ўлада, тым большага поспеху яна дасягае. Гэта парадаксальна толькі на першы погляд. У адной даволі глухой палескай вёсцы пачула развагі ўжо немаладога, спрацаванага дзядзькі: "Так, дрэнна жывём. Але мяняць уладу таксама ўжо больш няма сэнсу, бо пры ўсякай іншай будзе тое ж самае". Пра барацьбу Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта там чулі. Не вераць нікому, але да парламента ставяцца больш негатыўна, магчыма, не забыліся яшчэ пра тыя нядаўнія дапрэзідэнцкія парламенцкія часы, калі ўлада сапраўды "валялася ў гразі". І больш такога не хочуць. Людзі і так ні ў чым не ўпэўнены: ні ў заўтрашнім дні, ні ў сваіх сілах.**

## СТАРШЫНЯ ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ, ДЭПУТАТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА Уладзімір ГАНЧАРЫК:

# "АБСАЛЮТНАЙ ПЕРАМОГІ НЕ БУДЗЕ"

*-- Дык што ж адбываецца ў нашай дзяржаве? А, можа, усё нармальна?*

-- Пры такім падыходзе, які зараз існуе, нармальна не будзе. У любым выпадку рэферэндум, нават калі Прэзідэнт выйграе, -- Пірава перамога, таму што за гэтым -- перамога неабмежаванай улады і пра якую-небудзь дэмакратыю ў Беларусі гаварыць ужо не прыйдзецца. Таму я выступаю супраць такой рэдакцыі новай Канстытуцыі. Нельга канцэнтраваць усю ўладу ў руках аднаго чалавека. Гісторыя паказвае: незалежна ад самога чалавека, падобнае канчаецца сумна. Гэта першае. І другое -- эканамічныя вынікі праводзімай палітыкі. Яны, на жаль, таксама сумныя.

*-- Іншы раз, калі чуеш прыхільнікаў пункту гледжання, што адрозніваецца ад прэзідэнцкага, не пакідае адчуванне няведання імі рэальных народных настрояў. вось вы гаворыце -- "Пірава перамога". А калі паездзіць, пагаварыць з людзьмі ў беларускіх вёсках, маленькіх гарадках, пераконваешся практычна ў адваротным: вельмі для многіх гэта будзе цалкам натуральны вынік -- менавіта перамога іх уласных поглядаў і жаданняў.*

-- Я б не сказаў, што ўсё ўспрымаецца так ужо абсалютна аднаназначна. Хаця раслумачваць сітуацыю трэба. Людзі чуюць толькі адно: вярхоўнай уладзе ўвесь час нехта перашкаджае. Ну як жа так зразумець: учора паўнамоцтвы Прэзідэнта былі "царскія", а сёння іх ужо не хапае. Ды і тлумачэнні наўдач ідуць усё розныя. Я не думаю, што нават Прэзідэнту трэба столькі ўлады, гэта вельмі небяспечная з'ява. Людзі ў тым пераканаюцца. Яны павінны помніць урокі гісторыі сваёй і іншых краін.

*-- Ці не баіцеся вы, што ў прафсаюзах можа здарыцца тое, што адбылося з камуністычнай партыяй, дзе пазіцыя значнай часткі радавых удзельнікаў разышлася з поглядамі кіраўніцтва?*

-- Па-першае, аб канчатковай пазіцыі прафсаюзаў у цэлым гаварыць яшчэ рана. Мы вызначыліся толькі ў адносінах праекта сацыяльна-эканамічнай праграмы, а канкрэтна -- не падтрымалі, яна патрабуе дапрацоўкі. І свае прапановы па яе паляпшэнню прафсаюзы ўнеслі. Што тычыцца праекта Канстытуцыі, мы афіцыйна разгледзім яго ў прэзідыуме і на пленуме. І не дазволім сабе нікому нічога навязваць. Сёння я выказваю асабісты пункт гледжання. Аднак вельмі спадзяюся на разважнасць і на тое, што кожны чалавек добра падумае, чаго ён хоча.

*-- Але метад палітычнага расколу апошнім часам ужо быў выкарыстаны неаднойчы. Падзяляй і ўладар.*

-- "Падзяляй і ўладар" таксама канчаецца некалі. Усё праходзіць. Людзі разбяруцца.

*-- У пачатку работы першай сесіі вы выказалі жаданне знайсці сваё месца ў парламенцкай фракцыі "Згода".*

-- Я спрабаваў там быць, прыняў удзел у першай сустрэчы. Але потым убачыў: ні аб якой згодзе там і размовы няма, ідзе адкрытая падтрымка адной лініі -- прэзідэнцкай. Прафсаюзы па шэрагу пытанняў падтрымлівалі і падтрымліваюць Прэзідэнта, наш прынцып -- сацыяльнае партнёрства, і мы ад яго не адмаўляемся. Але маем права на выказванне і адстойванне свайго пункту гледжання. Я сцвярджаў і яшчэ раз сцвярджаю, што ў нашай дзяржаве ў плане кіравання далёка не ўсё добра. Не выконваюцца шматлікія рашэнні. Каб стварыць бачнасць паспяховасці, ідзе скажэнне даных. На пасяджэнні Савета бяспекі я падкрэсліваў: неабходна аб'ектыўна ацэньваць сітуацыю, каб прымаць рэальныя рашэнні, а не выдаваць жадаемае за сапраўднасць. У нас жа інфляцыя перайшла ў скрытую форму, значны дэфіцыт баланса і г.д. А дзе дасягненні? Аб якіх поспехах сёння ідзе гаворка? Плюс прагрэсіруе беспрацоўе, плюс нявыплачаная заработная плата... І нягледзячы на ўсе грозныя ўказы, ад гэтага так проста нікуды не дзенешся.

*-- Вы бываеце на заводах, у прамысловых калектывах. Які настрой там сёння пануе?*

-- Павінен сказаць -- неадназначны. Вы правільна сказалі: папулярнасць Прэзідэнта большая на вёсцы. У прамысловасці ўжо той эйфарыі накшт палітыкі, якая праводзіцца, няма. Але я і не стаў бы сцвярджаць, што Прэзідэнт не карыстаецца падтрымкай. Працэнтаў трыццаць ці сорак, дакладна не ведаю, ёсць. Падобная неадназначнасць, вядома, ускладняе работу прафсаюзаў. Але не спыняе. Спроба ж змагацца з усімі, вы ж разумееце, бесперспектыўная. І зварот да народа без уліку арганізацый гэтага народа -- палітычных, грамадскіх і іншых -- гэта таксама пра нешта сведчыць. Я чаму назваў перамогу на рэферэндуме "Піравай"? Ды таму, што абсалютнай перамогі не будзе.

*-- Пасля веснавых падзей -- жорсткага разгону дэманстрацый у Мінску ці не змяніўся падыход прафсаюзаў да падобных акцый пратэсту? Сёння можна вывесці людзей не проста на мітынг, а пад дубінкі або і пад кулі.*

-- Мы заўсёды зыходзім з наступнага: там, дзе можна дагаварыцца, трэба дагаворвацца. Аднак што, скажыце, рабіць у такой сітуацыі: некалькі месяцаў назад прайшла нарада прафсаюзнага актыву прамысловых прадпрыемстваў. Усе рашэнні, рэзалюцыі былі ўзгоднены з Кабінетам Міністраў. Усе, па пунктах. Дамовіліся, што на працягу месяца будуць прынятыя неабходныя рашэнні. Час даўно прайшоў, ды амаль нічога не зроблена. Што нам рабіць? Вядома, мы зноў паспрабуем весці перагаворы, але калі зноў не дачакаемся ніякіх вынікаў, вядома, будзе мітынг, вядома, будуць выступленні. І ніхто не спалохаецца. Што ж тычыцца дубінак, тут ужо трэба будзе паганяць з тых, хто іх прыменіць. Прычым спаганяць максімальна жорстка. Прафсаюзы адстойваюць сацыяльна-эканамічныя правы. Мы не ўмешваемся ў палітыку, хаця нас папракаюць у гэтым. Для нас палітыка -- удзел у выбарах. А гэта прадугледжана законам. Ну а я, як дэпутат Вярхоўнага Савета, маю права выказваць свой пункт гледжання і ў адносінах да палітыкі.

*-- Вы не баіцеся асабістай адказнасці, магчыма нават крымінальнай, калі выведзеце людзей на вуліцу? Апошнім часам для нас гэта стала рэальным.*

-- Павінен сказаць, што і як старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, і проста як грамадзянін я стараюся дзейнічаць у рамках закона. А інакш сапраўды можа надысці поўная анархія, і тады на самай справе нехта захоча некага пасадзіць. Але, думаю, у нас да гэтага не дойдзе.

**Галіна УЛІЦЁНАК**

**P.S. Сесія парламента працягвае сваю работу. Мы паспрабуем па магчымасці больш шырока пазнаёміць чытачоў з цяперашнім спектрам дэпутацкіх меркаванняў і настрояў.**

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ







**Новы пасёлак "Дружны" з'явіўся ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. Тут пабудаваны экалагічна чыстыя дамы, якія ўзводзіць нямецкая дабрачынная арганізацыя "Дамы замест Чарнобыля". У іх жывуць перасяленцы з пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС раёнаў. К канцу года ў пасёлку будзе 19 дамоў. Але ў першых пабудаваных тут памяшканнях ужо некалькі гадоў жывуць сем'і, перасяленыя з Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці.**

**У гэтыя дні будаўніцтва вядзецца поўным ходам. Працуюць нямецкія валанцёры сумесна з беларускімі добраахвотнікамі, а таксама перасяленцамі, якія будуць жыць у гэтых дамах.**

**НА ЗДЫМКАХ:** новая вуліца дамоў, што будуюцца нямецкай дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля"; сем'і Мікалая СЯНЬКО і Валянціна ХАРОШКІ ўжо некалькі гадоў жывуць у дамах, пабудаваных нямецкімі валанцёрамі; нямецкі валанцёр Францыска ФРОЛІХА на даху будучага дома пасёлка "Дружны".

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

## ДА 400-ГОДДЗЯ БЕРАСЦЕЙСКАЙ УНІІ

# СТВОРАНЫ ГРАМАДСКІ КАМІТЭТ

18 кастрычніка спаўняецца 400 гадоў з дня падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі -- падзеі, выключна важнай для ўсяго беларускага народа. З гэтай нагоды ў Мінску быў створаны Беларускі грамадскі аргкамітэт, куды ўвайшлі кіраўнік Дэканата Беларускай грэка-каталіцкай царквы айцец Ян Матусевіч, старшыня Згуртавання беларускай шляхты доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, доктар філасофскіх навук, прафесар Мікола Крукоўскі, бакалаўр сакральнае тэалогіі Ірына Дубянецкая, намеснік старшыні мастацкай суполкі "Пагоня" мастак Мікола Купава ды іншыя.

Падпісаная праваслаўнымі іерархамі Вялікага Княства Літоўскага на зямлі беларускай Берасцейская унія ўвасобіла ідэю хрысціянскае еднасці і пераадолення царкоўнага расколу. За ўсю больш як тысячагадовую гісторыю хрысціянства ў Беларусі пасля хрышчэння Полацкага і Тураўскага княстваў у канцы X стагоддзя гэтую падзею можна разглядаць як найбольш важную і адметную.

Сабор, што адбыўся 8/18 кастрычніка 1596 года ў царкве Св.Міколы ў Берасці, меў на мэце далучыць Праваслаўную царкву да сусветнае Каталіцкае царквы праз саюз (унію) з Рымам. Праваслаўныя іерархі Княства верылі, што новая самабытная каталіцкая царква Візантыйскага абраду не толькі прынясе рэлігійны мір народу, а будзе таксама спрыяць умацаванню духоўнага і дзяржаўнага адзінства краіны. Паступова уніяцтва пашырылася на ўсю тэрыторыю тагачаснай Беларусі, і напрыканцы XYI стагоддзя большасць беларусаў былі уніятамі. За два з паловай стагоддзі свайго існавання уніяцтва стала сапраўдным аб'яднальным фактарам духоўнага і культурнага жыцця краіны.

За сваю гісторыю уніяцкая царква не раз падвяргалася ўціскам, ганенням ды поўным забаронам, падзяляючы лёс свайго народа, з якім перажывала яна і слаўныя, і трагічныя перыяды.

Пасля афіцыйнай ліквідацыі уніяцтва працягвала існаваць у некаторых асяродках Беларусі і ў наступныя паўтара стагоддзя перажыло некалькі перыядаў адраджэння і заняпаду.

У 1990 годзе уніяцкая царква зноў уваскрэсла ў Беларусі як знак духоўнага адраджэння нацыі. Сёлетні вялікі юбілей беларусы сустракаюць у час вельмі складаны як для уніяцкай, грэка-каталіцкай царквы, так і для ўсёй краіны. У сённяшніх варунках жыцця адраджэнне і развіццё уніяцкай царквы можа зноў стаць магутным чыннікам умацавання духоўнай і рэлігійнай талерантнасці ў Беларусі. Грамадскі аргкамітэт па святкаванню 400 угодкаў Берасцейскай уніі распрацаваў спецыяльную праграму, у якую ўваходзіць адукацыйна-асветніцкая праца, уключаючы публікацыі ў прэсе, выпуск спецыяльных выданняў, арганізацыю выстаў, а таксама канцэрты, урачыстае юбілейнае набажэнства.

Адметнае месца ў праграме займае стварэнне царкоўнай рады парафіі Святога Духу. Устаноўчы сход на яе ўтварэнне адбыўся на пачатку верасня гэтага года. Яе ініцыятары маюць на мэце адбудову уніяцкай царквы Святога Духа ў Мінску -- унікальнага помніка беларускага дойлідства XYII стагоддзя, які быў зруйнаваны бальшавікамі ў 1937 годзе. У склад рады абраны 12 чалавек, а ўзначаліў яе Мікола Купава. У хуткім часе плануецца адкрыць рахунак і распачаць кампанію па збору сродкаў.

Усе мерапрыемствы разам могуць стаць яшчэ адным крокам на шляху да духоўнага абуджэння самасвядомасці, нацыянальнага адзінства і годнасці беларускага народа.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Развіццё духоўнай культуры кожнага народа адбываецца пад уздзеяннем цэлага комплексу фактараў, сярод якіх важнае месца займае рэлігійны. На Беларусі ён выступае ў чатырох асноўных канфесіях: праваслаўе, каталіцызм, уніяцтва і пратэстантызм. Гэта што датычыць яе карэннага насельніцтва. Яўрэі ж спавядаюць іудаізм, татары -- іслам. З хрысціянскіх канфесій чытачу найбольш знаёмыя праваслаўе і каталіцызм, таму тэмай сваёй кнігі я выбраў уніяцтва, адносна якога ў многіх людзей адсутнічаюць неабходныя веды ці існуюць памылковыя ўяўленні. Датычыць гэта і многага з таго, што папярэднічала здзяйсненню ў нашым краі новай, з складаным і супярэчлівым лёсам рэлігійнай плыні.

Гісторыя распарадзілася так, што на значнай даўжыні па памежжы з Беларуссю жылі і жывуць два вялікія славянскія народы -- рускія і палякі, у якіх заўсёды вельмі важную ролю адыгрываў рэлігійны фактар у развіцці духоўнай культуры, фармаванні этнічнай самасвядомасці людзей. Пасля таго як у асноўным адышло ў нябыт паганства, абсалютная большасць насельніцтва тэрыторый, дзе фармаваліся руская і польская народнасці, вызначыла хрысціянскую веру. Пазней у першай яна трансфармавалася ў праваслаўную, у другой -- у каталіцкую рэлігію. І раней, і цяпер сярод рускіх вернікаў вельмі мала католікаў, а сярод палякаў -- праваслаўных, што якраз і не вядзе да канфесійнай раздвоенасці гэтых народаў.

З канца X -- пачатку XI стагоддзяў і на тэрыторыі Беларусі пачало прыжывацца хрысціянства, якому з цягам часу наканавана было тут стаць пануючай рэлігіяй, але з зусім іншымі, чым у рускіх і палякаў, суадносінамі паміж праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі, што самым непасрэдным чынам адбівалася і адбіваецца на нацыянальнай самасвядомасці нашага народа. Шмат якія беды з заняпадам беларускай культуры і мовы, распаўсюджаннем нацыянальнага нігілізму менавіта і абумоўлены даным фактарам.

Хаця праваслаўе і каталіцызм -- гэта два роднасныя адгалінаванні адной і той жа рэлігіі -- хрысціянства, яны вельмі рэдка суіснавалі ў дружбе і згодзе паміж сабой. І адбывалася гэта таму, што як першае, так і другое ніколі не абмяжоўвалі сваю дзейнасць толькі чыста канфесійнымі справамі, а былі цесна інтэграваны ў сферу дзяржаўнай палітыкі, стараліся ва ўсім дапамагаць свецкім уладам. Служыцелі праваслаўнага і каталіцкага рэлігійнага культу і Рускай дзяржавы, і Польскага каралеўства ніколі не лічылі грэшнай справай навязваць сваю веру частцы насельніцтва іншых канфесій, не зважаючы і на тое, што іх дзеянні маглі супярэчыць яго інтарэсам. Калі патрэбна было, ужывалі ў гэтых мэтах і насілле. Высокія духоўныя асобы вельмі ахвотна замацоўвалі за сабой і выключнае права вызначаць этнічную прыналежнасць людзей сваёй веры, лічачы апошнюю практычна адзіным прыдатным для гэтага фактарам.

Паколькі Беларусь знаходзілася на стыку ўзаемадзеяння магутных Рускай праваслаўнай і Польскай каталіцкай цэркваў, усё гэта не магло не ўплываць не толькі на яе духоўнае, але і палітычнае жыццё, працэсы этнічнага развіцця. Прычым найбольш уцягнутымі ў складаныя, супярэчлівыя канфесійныя справы былі самыя заможныя пласты беларускага народа, паколькі пры пэўных абставінах, маніпулюючы прыналежнасцю да той ці іншай веры, яны маглі атрымаць ад дзяржавы істотныя сацыяльна-эканамічныя ці палітычныя выгоды. Не будзем таксама забывацца, што людзі такой катэгорыі ў параўнанні з простым народам былі больш адукаванымі і, значыцца, не так фанатычна настроенымі ў дачыненні да рэлігіі, і таму замяніць сваю веру, калі толькі гэта выклікалася якім-небудзь адчувальным сацыяльным выйгрышам, з'яўлялася для іх элементарнай справай. Трэба думаць, што гэта добра ведалі кіраўнікі свецкай улады і каталіцкага кліру Польскай Кароны ў далёкім ад нас сярэднявеччы. Таму, выношваючы планы пры зручных абставінах пашырыць уласную тэрыторыю за кошт суседняй Беларусі, узмацніць тут свой уплыў, яны імкнуліся дамагацца гэтага шляхам перацягнення да сябе як мага больш заможнага насельніцтва, ведаючы, што з яго дапамогай лягчэй будзе падпарадкаваць сабе і ўвесь люд гэтай краіны. Дзеля здзяйснення такіх планаў лепшага сродку, як рэлігія, нельга было адшукаць. Пра гэта сведчыў і даволі багаты вопыт шэрага іншых еўрапейскіх дзяржаў, якім без асаблівай цяжкасці ўдавалася павялічваць свае ўладанні, пусціўшы ў ход сродкі, што меліся ў руках царкоўнікаў. У сярэдневяковай Еўропе рэдка якая вайна не была вайной рэлігійнай, прычым на ратных палях пралівалі кроў і людзі адной хрысціянскай веры, толькі яе розных адгалінаванняў, адценняў.

Частыя непаразуменні, якія пры пэўных акалічнасцях перарасталі і ў кровапралітныя войны паміж вернікамі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, вымушалі іх іерархаў шукаць усемагутныя сродкі для спынення такіх канфліктаў, устанаўлення міру і згоды, саюзу, а па-латыні -- уніі між хрысціянамі. Апошняй наканавана было стаць даволі распаўсюджанай з'явай у хрысціянскім свеце, шмат у чым прадвызначыць лёс многіх народаў, таму і па сёння сямтам ажывае памяць аб ёй. Ёсць вельмі раннія звесткі, што да царкоўнай уніі цягнуўся галіцкі князь Даніла Раманавіч, дзеля чаго меў перамовы з папам, ад якога атрымаў каралеўскую карону. Урачыстае каранаванне адбылося ў 1255 годзе ў Драгічыне. Па розных прычынах, у т. л. і з-за працягу татара-мангольскіх набегаў, да практычнага вырашэння ідэі уніі справа не дайшла. Найбольш значны след ва ўз'яднанні праваслаўя і каталіцызму пакінулі Ліёнская (1274) і Фларэнційская (1439) царкоўныя уніі. Дарэчы, пад апошняй стаіць і подпіс маскоўскага мітрапаліта Ісідара. І гэта зусім не выпадкова, бо папа праз сваіх даверaных асобаў не раз схіляў да саюзу з Ватыканам Маскоўскую мітраполію. Вядома, да прыкладу, што сур'ёзная гаворка пра царкоўную унію адбылася ў 1396 годзе ў польскага караля Ягайлы з Кіева-Маскоўскім мітрапалітам Кіпрыянам, які адзін час стаяў на чале Літоўскай мітраполіі. Апошні не пярэчыў і нават звярнуўся з пісьмовай просьбай аб гэтым да канстанцінопальскага патрыярха. Такі ліст яму выслаў і Ягайла. Практычна рашэння не было прынята, бо Візантыя ў гэты час вяла вайну з туркамі.

У шэрагу захадаў папы далучыць праваслаўных Маскоўскага княства да уніяцтва не апошняе месца займала выдача замуж за яго дачкі цара Івана III Зоі Палеалёг. У яе бацькоў заўсёды ў вялікай пашане было грэка-каталіцкае веравызнанне. Пасля смерці ў 1465 годзе бацькі Зоі яе ўдачарыў сам папа рымскі. Шлюб адбыўся ў лістападзе 1472 года. Штосьці прадметнага для справы уніі Зоя Палеалёг, пасля шлюбу -- Соф'я, не зрабіла і хутка сама пачала жыць паводле праваслаўных нормаў.

### І. НА ПОДСТУПАХ ДА БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

Складаныя, напружаныя адносіны паміж у аснове сваёй праваслаўнай Беларуссю і каталіцкай Польшчай вельмі рана высунулі на пярэдні план, пры досыць вялікай зацікаўленасці апошняй, праблему уніі гэтых дзвюх хрысціянскіх канфесій. Паколькі такое ўжо ў практыцы існавала, значыцца, ні Беларусь, ні Польшча не з'яўляліся тут піянерамі. Свецкія і духоўныя ўлады Польскай Кароны ў пэўнай ступені ўзвышае, што ў дачыненні да памежнай ёй праваслаўнай Беларусі яны не пайшлі на адкрытую рэлігійную вайну, а выбралі мірны шлях, спадзеючыся і такім чынам дасягнуць ажыццяўлення сваіх нядобрасуседскіх намераў. Пайсці ж на царкоўную унію Беларусь вымушаў яе клопат аб захаванні ўласнага народа ад прамога захопу і асіміляцыі як з боку Рускай дзяржавы, так і Польскай Кароны, якія з мэтай анексіі беларускіх земляў вельмі актыўна і рашуча выкарыстоўвалі рэлігійны фактар. Калі першая абгрунтоўвала свае захопніцкія, агрэсіўныя планы ў дачыненні да беларускай тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага неабходнасцю абараніць тут аднаверцаў -- праваслаўных, дык другая скіроўвала сюды свае дзеянні дзеля адстойвання інтарэсаў каталіцкага насельніцтва, якое, дзякуючы тонкай палітыцы польскіх каталіцкіх іерархаў, мела ўстойлівую тэндэнцыю кольliving каснага росту за кошт праваслаўных этнічных беларусаў.

Знакамітыя духоўныя асобы Вялікага Княства Літоўскага, што выношвалі планы уніі з каталіцкай канфесіяй, бачылі, як цяжка ім даецца астойванне незалежнасці сваёй царквы ад Маскоўскай мітраполіі. Апошняя, як толькі даведвалася аб з'яўленні ў ВКЛ уласнага мітрапаліта, адразу распачынала супраць яго тонка прадуманыя інтрыгі, і трэба сказаць, што зачастую дамагалася перамогі. Таму памылкова лічыць, што Беларуская праваслаўная царква захоўвала свой аўтакефальны характар да часу падпісання ў 1596 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі. Наадварот, ад першых гадоў існавання праваслаўя на Беларусі яно, толькі за рэдкім выключэннем, не залежала ад кіеўскай ці маскоўскай мітраполій. Смерць жа Літоўскага мітрапаліта Феафіла (каля 1330) увогуле паклала пачатак пераходу да поўнага падпарадкавання праваслаўнай царквы Беларусі Маскве. Спробы некаторых вялікіх князёў ВКЛ, у прыватнасці Альгерда (1345--1377), вярнуць ёй былую незалежнасць не давалі станоўчых вынікаў, хаця іншым разам і з'яўляліся нейкія надзеі, дасягнутыя праз вялікія намаганні.

Трэба адзначыць, што незалежнасць Беларускай праваслаўнай царквы ад маскоўскага мітрапаліта ў аднолькавай ступені падабалася як духоўным, так і свецкім уладам Вялікага Княства Літоўскага, таму тут і ставіліся вельмі прыхільна да ідэі рэлігійнай уніі, бачачы ў ёй нейкую магчымасць да канца не страціць сваё самастойнасці. Будучы моцна незадаволенымі замахамі на яе з боку маскоўскага мітрапаліта Фоція, высокія духоўныя і свецкія асобы ВКЛ, як толькі маглі, садзейнічалі падзелу ў 1416 годзе рускай мітраполіі на маскоўскую і заходнерускую, або літоўскую. У мітрапаліты апошняй пасвяцілі балгарына Рыгора Цамблака. Паводле патрабаванняў вялікага князя літоўскага Вітаўта ён у суправаджэнні чатырох епіскапаў і шматлікай варты ездзіў у 1418 годзе на каталіцкі сабор у Канстанту з мэтай вырашэння пытання аб уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Калі ж справа дайшла да канкрэтных дзеянняў, Цамблак адмовіўся ад гэтай задумы. Пасля смерці ў 1420 годзе мітрапаліта Цамблака і з паляпшэннем адносін з Масквою вялікі князь літоўскі Вітаўт даў згоду на падначаленне праваслаўнай царквы маскоўскаму мітрапаліту Фоцію.

Нічога не атрымалася ў пытаннях уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў і ў вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы. Рабілася гэта больш з мэтай схіліць на свой бок папу Яўгена IV і займець ад яго падтрымку ў барацьбе з польскім каралём Ягайлам. Свідрыгайлу даволі лёгка ўдалося ўгаварыць у 1434 годзе літоўскага мітрапаліта Герасіма (да пасвячэння ў гэты высокі сан быў смаленскім епіскапам) пайсці на царкоўную унію, што вельмі ўсцешыла папу, але паколькі ён ні ў чым не дапамог вялікаму князю літоўскаму ў барацьбе з Ягайлам, "справа аб уніі сканала".

Сканала, але ненадоўга. Не трэба забывацца, што неўзабаве пасля вышэйапісаных падзей адбылася Фларэнційская царкоўная унія, у якой былі вельмі вялікія планы адносна распаўсюджвання уніі далёка на ўсход. Ім не наканавана было здзейсніцца. Правал спробы рымскага папы пашырыць ідэю Фларэнційскай уніі на ўсход з дапамогай маскоўскага мітрапаліта Ісідара вымусіў шукаць дзеля гэтай мэты новых варыянтаў. Стаўка была зроблена Рымам і выгнаным з Царграда за вялікую прыхільнасць да уніі канстанцінопальскім патрыярхам Рыгорам Мамасам на праваслаўную царкву ВКЛ. Пры садзеянні гэтага патрыярха яна дамаглася ў 1458 годзе поўнай незалежнасці ад маскоўскага мітрапаліта. Пад той час яе ўзначальваў мітрапаліт балгарскага паходжання Ісідар Грыгорый, які паводле веравызнання з'яўляўся уніятам.

**Леанід ЛЫЧ.**

**(Працяг будзе).**



**200-гадовы будынак панскай сядзібы ў вёсцы Дзям'янкі Добрушскага раёна з'уляецца помнікам архітэктуры, які дзяржава мела намер аднавіць. Але спачатку не даходзілі рукі, потым стала не хапаць сродкаў, а вынік усяму падвёў Чарнобыль. Школа-інтэрнат для дзяцей, што размяшчалася там, пераехала ў Петрыкаўскі раён, а будынак застаўся стаяць сіратой.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

## ДАЖЫНКІ — АДРАДЖЭННЕ НАРОДНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

Гэта чарговае мерапрыемства, якое правяло ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю 30--31 жніўня гэтага года ў засценку Вашунава Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці на базе гісторыка-этнічнага музея "Засьцянковая хатка", што з'яўляецца структурным падраздзяленнем нашага ТБМ і важным асяродкам нацыянальнага адраджэння ў гэтым рэгіёне.

...Гучаць беларускія жніўеньскія песні, скрыпяць лапці, звіняць цымбалы, брынчыць гітара, чуваць удары ў бубен, а гармонік грае, грае...

Народная традыцыя "Дажынкі" адраджаецца. У цэнтры ўвагі жытнёвы сноп-гаспадар, што стаіць у куце, на самым пачэсным месцы, яму пашана, бо хлеб -- усяму галава. А будзе хлеб -- будуць і песні, нашы народныя.

Так пачаліся "Дажынкі" ў Вашунаве, цудоўным куточку роднай маці-Беларусі, куды прыехалі сябры ТБМ з Вільні і прыйшлі людзі з наваколля.

Сёлета, як і заўсёды, добры ўраджай садавіны, гародніны, бульбы і г.д. Праўда, зямельны ўчастак музея невялічкі, але дагледжаны, уходжаны, адгэтуль і вынікі адпаведныя.

Жыта і ячмень жалі сярпом, малацілі цапамі, у ступе рабілі ячневыя крупы, зерне малолі ўручную ў жорнах, бліны і хлеб пяклі ў беларускай печы, замешвалі цеста ў дзяжы. Усё гэта ёсць у музеі "Засьцянковая хатка". Не ўсё яшчэ страчана, не ўсё яшчэ забылася. Людзі ўдала валодаюць касой і сярпом, цапом і таўкачом, і гэта вельмі радуе, бо свой вопыт, уменне перадаюць малодшым. А побач нашы дзеткі, якія, як птушачкі, адразу ж прыляцелі сюды на сваіх веліках і прынялі, як заўсёды, актыўны ўдзел, за што атрымалі падарункі: цукеркі ды кніжкі на роднай мове.

У музей людзі ідуць заўсёды з ахвотай, асабліва дзеці, якія ўзялі пад апеку прыдарожныя крыжы (паліваюць кветкі, робяць праполку і г.д.).

Гісторыка-этнічны музей "Засьцянковая хатка" ператвараецца ў музей-запаведнік, рэлігійна-культурны цэнтр нацыянальнага Адраджэння, і ён дарагі нам. Нездарма на франтоне надпіс "Жыве Беларусь!", а побач: "Родны кут каханы. Тут недзе пуп мой закапаны!"

І дзе б мы ні жылі, але назаўсёды звязаны з Бацькаўшчынай гэтай матчынай пупавінай. Аб гэтым мы не павінны забываць, а шанаваць родную мову, край, Радзіму. Шчырае дзякуй вам, людзі добрыя, за ўсё добрае, шчырае, за актыўны ўдзел у святе "Дажынкі" і, у першую чаргу, Антону Мехавічу, Яну Фурсу, Ефрасінні Паповай і ўсім, усім.

**Юры ГІЛЬ,**
**адказны сакратар ТБМ,**
**дэпутат Віленскага раёна.**

## ...І НІЯКІХ ПРЭТЭНЗІЙ

Цеплаходы з іменамі беларускіх гарадоў -- Наваполацка і Навагрудка -- больш не з'явяцца ў партах свету пад расійскім сцягам: Балтыйскае марское параходства ў Санкт-Пецярбургу (БМП) страціла гэтыя судны. Як паведамілі ў інфармацыйнай службе БПМ, цеплаходы былі арыштаваны і прададзены за даўгі параходства і будуць эксплуатавацца новымі гаспадарамі пад новымі іменамі. "Наваполацк" арыштаваны і прададзены ў маі ў Новым Арлеане. "Навагрудак" прадавалі ў Антверпене двойчы. Першы раз яго купіла турэцкая фірма за 23 мільёны бельгійскіх франкаў, аднак па ўмовах аўкцыёну, калі на працягу двух тыдняў нехта прапануе большую цану, першапачатковая здзелка касуецца. Большую цану дала кіпрская суднаходная кампанія -- "Навагрудак" перайшоў у яе ўласнасць за 24 мільёны бельгійскіх франкаў. Як лічыць апошні капітан "Навагрудка" -- 55-гадовы Анатоль Бондар, цеплаход, калі меркаваць па яго стану і мараходных якасцях, каштуе значна даражэй. Абодва цеплаходы аднаго тыпу (дэдвэйтам 13 600 тон) і пабудаваны ў Фінляндыі -- "Наваполацк у 1969, а "Навагрудак" у 1970 годзе. Наколькі вядома нашаму карэспандэнту, беларускі бок не прад'явіў пецярбургскаму параходству ніякіх прэтэнзій аб кампенсацыі за камерцыйную эксплуатацыю іменаў слаўных беларускіх гарадоў.

**Алесь ШКНАЙ.**

Санкт-Пецярбург.

ШЛЯХАМІ "ЗЯМЛІ І ВОЛІ"

# БРАТЫ КАТЫРЛЫ

У пятым томе БелСЭ (1972) з'явілася аб ім першая нататка: "**Катырла** Васіль Ігнатавіч (каля 1838, Віцебская губ. -- год смерці невядомы), удзельнік рэвалюцыйнага руху 60-х гадоў XIX стагоддзя..." Аднак многіх звестак пра яго, у тым ліку самых элементарных, неставала. Адкуль канкрэтна ён, а таксама яго брат родам? З якой яны сям'і, у якіх умовах раслі-гадаваліся?

Таму мне падаліся цікавымі дакументы аб братах Катырлах, выяўленыя апошнім часам у мінскім гістарычным архіве.

Найперш гэта справа Віцебскай дырэкцыі вучылішчаў 1848--1849 гадоў аб вызваленні вучняў ад платы за вучобу (ф. 2507, воп. 1, спр. 382). У канцы 1848 года з такой просьбай звярнуўся да вучылішчнага начальства і адстаўны чыноўнік Катырла, дзеці якога Васіль і Ігнат вучыліся ў Віцебскай гімназіі.

У справе ёсць чыноўніцкі фармулярны спіс просьбіта пачатку 1849 года, з якога выпісваем пра яго наступныя звесткі.

Ігнат Іпалітавіч ("Ипполитов сын") Катырла. Тытулярны саветнік (невысокі чын 9-га класа, які даваў права на асабістае, але не патомнае дваранства). Да таго ж у адстаўцы. Яму 40 гадоў. Веры праваслаўнай. "Из дворян священнический сын". Спалучэнне нячастае. Але сапраўды адметнае беларускае прозвішча "Катырла" сустракаецца ў тагачасных дакументах па Віцебшчыне як сярод шляхты, так і сярод святароў. Аднак калі і было ў даўнія часы гэтае шляхецтва ў продкаў Ігната Іпалітавіча, то цяпер яно асталося сямейным паданнем, да якога, праўда, з пэўнай павагай ставіліся саслужыўцы (вось жа зрабілі паслугу -- унеслі ў фармулярны спіс, так бы мовіць, дакументавалі). А па сутнасці — юрыдычна — бацька быў ужо разначынцам. А значыць насуперак матэрыялам следства 1863 года, якія ўжо прыводзіліся, не быў паўнапраўным дваранінам і яго сын Васіль. Пройдземся прыступкамі вельмі сціплай службовай біяграфіі бацькі. У 1828--1842 гадах служыў дробным канцылярскім чыноўнікам у Беларускай (Полацкай) духоўнай кансісторыі. У 1843--1845 гадах паштовы чыноўнік у Віцебску і Рэжыцы. Каля года знаходзіўся ў адстаўцы (чаму?). У ліпені 1846 года ўладкаваўся памочнікам столаначальніка ў Віцебскае губернскае праўленне, праслужыў з год і звольніўся, цяпер ужо канчаткова, з-за хваробы.

Самае для нас цікавае -- звесткі пра сям'ю: "Женат вторичным браком, детей имеет -- сыновей: от первого брака Игнатия 13 и от второго брака Василия 11 и дочерей: Феклу 5 (лет) и Варвару-Марью 2-х месяцев. Вероисповедания православного, а жена римско-католического". Мяркуючы па двайным імені, прынамсі апошняя дачка была таксама ахрышчана ў касцёле. А магчыма Ігнат Іпалітавіч з жонкай-каталічкай дамовіўся так: сыноў хрысціць па праваслаўнаму, а дачок па каталіцкаму абраду. Так што сям'я была ў пэўным сэнсе інтэрнацыянальная, па-беларуску адкрытая на ўсход і на захад.

Паколькі метрыкаў аб нараджэнні Васіля і Ігната пакуль што ў нас няма, то фармулярны спіс бацькі ці не адзіная для нас цяпер магчымасць устанавіць месца іх нараджэння. Мяркуючы па звестках пра ўзрост (якія трапляюцца і ў іншых дакументах -- пра іх скажам пазней), сыны Ігната Іпалітавіча нарадзіліся ў 1836 і 1838 гадах (малодшы Васіль быў, выходзіць, аднагодкам Кастуся Каліноўскага). Месцам іх нараджэння будзем лічыць старажытны Полацк, дзе служыў у гэты час бацька. Канчаткова ўдакладніць гэтыя звесткі, устанавіць дзень і месяц нараджэння, пакуль што нельга, бо метрычныя кнігі па Полацку гэтага перыяду не захаваліся.

Агульная карціна сямейнага жыцця праз сухі, выпетраны, дыстанцаваны ад жывых фарбаў жыцця, чыноўніцкі фармулярны спіс бачыцца вельмі невясёлая. Першая жонка, мабыць, памёрла неўзабаве пасля нараджэння сына Ігната. Давялося шукаць новую гаспадыню. Сам, нягледзячы на адносна нестары яшчэ век, цяжка хворы, ужо не можа цягнуць службовую лямку. А ў сям'і -- чацвёра малых дзяцей, дзяўчынка-немаўля.

3 лютага 1849 года дырэктар вучылішчаў Бернгоф паведамляў папячыцелю Беларускай навучальнай акругі (дзе канчаткова вырашалася пытанне аб вызваленні ад платы за вучобу):

"Из сего документа (фармулярнага спіса. -- **Г.К.**), поступившего ко мне 1 сего февраля, не видно, чтобы за просителем или за женою его состояло какое бы то ни было недвижимое имение, а усматривается, что у него четверо малолетних детей.

Из собранных же мною частных сведений оказывается, что проситель, не имея и денежных капиталов, одною только службою, которую должен был оставить по болезни, снискивал себе пропитание.

О каковых обстоятельствах имея честь вашему превосходительству донести и признавая титулярного советника Котырло, с своей стороны, человеком действительно бедным, покорнейше прошу разрешить меня (так у дакуменце. -- **Г.К.**) на освобождение поименованных сыновей его, учеников Витебской губернской гимназии Игнатия и Василья Котырло, вовсе от платежа за учение".

Дазвол быў атрыманы -- "по совершенной их бедности".

Неўзабаве -- у давяршэнне ўсіх бедаў -- памірае бацька. Пра далейшае даведваемся са справы генерал-губернатарскай канцылярыі "По прошению вдовы Котырловой о помещении детей в учебные заведения на казённый счет" (ф. 1297, воп. 1, спр. 22755). Падшыўка адкрываецца прашэннем ад 26 студзеня 1851 года, адрасаваным віцебскаму генерал-губернатару князю Галіцыну, які знаходзіўся тады па справах службы ў Пецярбургу. Дакумент і сёння крапае непрыкрытай бядою:

"Сиятельнейший Князь!

Милостивый государь!

Муж мой, титулярный советник Игнатий Ипполитов сын Котырло, прослужив по гражданскому ведомству 18 лет, по подаче за болезнею в отставку, в 1848 году (мяркуючы па ўсім, у 1849-м. -- **Г.К.**) умер, оставив меня вдовою без всяких средств с двумя малолетними сыновьями и двумя дочерьми.

Местное начальство, видя мою крайнюю бедность и бесприютие, в 1849 году за службу мужа представило меня к единовременному пособию, но такового я еще и по настоящее время не получила, между тем, не имея малейших средств способствовать сыновьям моим, обучающимся: Игнатию -- в III, а Василию -- во II классе Витебской губернской гимназии, я приняла смелость за одно для спасения себя и детей средство прибегнуть в сем случае к Вашему сиятельству.

Сиятельнейший Князь! Милость Ваша и защита бедных сирот и вдов известна всему вверенному Вам Августейшим Монархом краю, после смерти мужа я не имею способов: ни воспитывать детей моих, ни даже давать им дневное пропитание, по нахождению теперь Вашего сиятельства в СПетербурге, снисходя на крайнее положение, приймите участие в помещении детей моих в какое-либо заведение на казенный счет, а теплые молитвы пред Творцом Вселенной о благоденствии Вашем, Сиятельнейший Князь, на устах моих с малолетними детьми никогда не устанут.

При чем честь имею представить нужные документы о детях моих при поступлении их в какое-либо из учебных заведений.

С истинным высокопочитанием имею честь быть
Вашего сиятельства
Покорнейшею слугою
Виктория Котырлова".

Згаданых дакументаў (відаць, гэтак патрэбныя нам сёння метрыкі) у справе, на жаль, няма. З прашэння і наступных папераў даведваемся, што маці Васіля і мачыху Ігната звалі Вікторыя Адамаўна.

Прашэнне калі не расчуліла, дык усё ж, мабыць, неяк кранула важнага саноўніка. Хоць і не так хутка, улетку 1851 года, па даручэнні высокага начальства прыбітую горам і нэндзаю ўдаву наведаў сам віцебскі паліцмайстар маёр Барзоў, якому яна растлумачыла, што Ігната і Васіля жадала б уладкаваць "в которое-либо из нижепоясненных казенных заведений, как-то Константиновский Межевский (Межевой. -- **Г.К.**) институт, Институт лесничих, Аудиторскую школу, Школу Топографов, Школу Архитекторов или Инженеров Гражданского ведомства, в Институт Петагогический (так у дакуменце. -- **Г.К.**), в Институт Правоведения". Такія былі мары беднай маці (прычым, па скажоных, малапісьменных назвах адчуваецца, што ні яна, ні былы вайсковец Барзоў не надта разбіраліся ў гэтых высокіх сферах сталічнай адукацыі).

У кастрычніку таго ж года новае прашэнне ўдавы Катырлавай генерал-губернатару -- уладкаваць дзяўчынак у Піпенбергскі інстытут (назва зноў перакручаная, даём адразу правільную) пад Магілёвам (Пра Піпенбергскі інстытут -- выхаваўчую ўстанову для дзяўчынак "Голас Радзімы" пісаў 14.10. 1993 года ў артыкуле З.Яцкевіча) -- "состоящий в близком расстоянии от места жительства моего, чем удовлетворится хотя в части желание родительницы, лишенной по бедному своему состоянию и этого единственного удовольствия, дабы могла видеть при себе вырастающих и воспитывающихся детей. Что же касается помещения сыновей моих, если в указанные мною в записке... места встречается невозможность, то покорнейше прошу Ваше сиятельство поместить их в Воспитательный дом Гатчинского Института".

Але аказалася, што ў той Выхаваўчы дом у Гатчыне (інакш Гатчынскі сіроцкі інстытут) хлопцы ўжо спазніліся: туды бралі да 12 гадоў, а іх сястрычка Фёкла, або Тэкля, у 1852 годзе па распараджэнні міністра ўнутраных спраў (вось ажно якое высокае начальства давялося турбаваць) была залічана кандыдаткай у той жаданы Піпенбергскі інстытут.

Хлопцы ж працягвалі сяк-так вучыцца ў Віцебскай гімназіі, якую, насуперак усім цяжкасцям, і скончылі: Ігнат у 1856 годзе, а Васіль у 1859-м (іх імёны бачым у спісе выпускнікоў гімназіі, прыкладзеным да вядомай грунтоўнай кнігі А.Сапунова "Историческая записка 75-летия Витебской гимназии", 1884).

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 37.**

# НА ПОЛЫМІ ЛЮБОВІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

А далей там жа, у эміграцыі, у Жоўкве, яна друкуе і першую кніжачку для дзяцей -- "Гасцінец для малых дзяцей". А ў Пецярбургу -- яшчэ адну кнігу -- "Першае чытанне для дзетак-беларусаў".

Цяжка пераацаніць гэты подзвіг Цёткі. Яна першая дае беларускім дзецям навуку чытання, першая кідае зерні на цаліну, спадзеючыся, і не без падстаў, на добрыя ўзыходы.

Тут жа, у Жоўкве, выдае яна і брашуру "Як мужыку палепшыць сваё жыццё". Гэта ўжо клопат пра селяніна, парады -- як выбіцй яму з жабрацтва.

У друкарні Базыльянскага манастыра друкуе Цётка і зборнікі сваіх вершаў. Падзяліла іх на дзве кніжачкі, у першую, "Хрэст на свабоду", сабрала свае рэвалюцыйныя вершы, другую, "Скрыпка беларуская", склала лірыка. Зборнік "Хрэст на свабоду" -- гэта той самы летапіс рэвалюцыйных падзей, тут тыя вобразы буры, маланкі, грому, расхваляванага мора, надзея, што народ пераможа самаўладства і на яго рэштках зацвіце свабода.

Настрой зборніка "Скрыпка беларуская" хутчэй мякка-лірычны, хоць бура, кіпенне, страсці прысутнічаюць і тут, толькі тут бура, кіпенне, страсці не на вуліцах, не на барыкадах, не на рэвалюцыйных мітынгах, а ў грудзях самой паэткі. Трывожыць, хвалюе Цётку зноў лёс свайго народа, яго будучыня. Нават самыя мяккія, задушэўныя вершы Цёткі праскнуты грамадскімі настроямі, у іх няма нічога асабістага, усё асабістае -- грамадскае, і ўсё грамадскае -- асабістае. Яна хоча ўсю сябе, сваю творчасць пакласці на алтар айчыны, ахвяраваць сабою для дабра свайго народа.

**Хацела б быць зярном пшаніцы,**
**Упасць на ніўкі вёскі,**
**Зазалацінца без мятліцы,**
**Даць хлеб смачнейшы трошкі.**
**Хацела б быць я рэчкай быстрай,**
**Аббегчы родны край,**
**Дзе напаіць, а дзе скупаць,**
**А дзе ўтуліцца ў гай...**

Паэтычна, вобразна выказвае яна жаданне зліцца са сваім народам, са сваёй зямлёю. Яна б хацела

**То рассыпацца расою**
**Па галінках, па лістках,**
**То абняцца так з зямлёю,**
**Каб ніхто разняць не мог.**

У эміграцыі Цётка займаецца не толькі выданнем кніг на беларускай мове, яна акунаецца ў палітычнае жыццё Галіцыі і галоўнай сваёй задачай лічыць -- расказаць пра існаванне беларускага народа, пра яго пакуты, яна завязвае знаёмствы з украінцамі, палякамі, шукае тут беларусаў, такіх, як і яна, эмігрантаў, аб'ядноўвае іх у суполку.

А жылося цяжка. Зарабляла на кавалак хлеба масажам, начным дзяжурствам у бальніцах. Але гэта былі выпадковыя заробкі, а дапамогу з дому саромелася прасіць, ды і там гаспадарка занепадала. У выніку -- недаяданне, халодныя пакойчыкі, што здымала ў гаспадароў, настылыя муры універсітэцкіх аўдыторый, бібліятэк, сум па радзіме прывялі да хваробы, у Цёткі пачаліся сухоты, і яна паехала лячыцца ў Закапанэ -- знакаміты на той час курорт для сухотнікаў ля падножжа высокіх Татраў. Тут наведаў яе будучы муж, літоўскі палітычны дзеяч Стэпонас Кайрыс. У сваіх успамінах ён піша пра Цётку той пары:

"У Закапане, у гуральскай хаціне, знайшоў хворую на лёгкія Цётку -- як заўсёды жвавую, чуйную на падзеі і найменш дбанную пра сябе. Працэс у лёгкіх толькі пачынаўся, аднак для залячэння яго канечныімі былі чыстае горнае паветра, як найбольш сонца ды магчыма лепшая ядa. Пра гэта, аднак, Цётка і ў Закапане найменш рупілася. Застаецца там на ўсё лета".

Пасля Закапанэ Цётка не вяртаецца ў Львоў, пасяляецца ў Кракаве. І тут шукае сяброў, аднадумцаў, страшэнна сумуе па радзіме і некалькі разоў -- і з Львова, і з Кракава нелегальна, часам з чужым пашпартам ездзіць у Беларусь, а вярнуцца назаўсёды яшчэ немагчыма, паліцыя не спыніла пераследу тых, на каго заведзены судовыя справы. Але сувязь з Беларуссю не спыняецца. У Вільні выходзіць новая беларуская газета -- "Наша Ніва", і Цётка перапісваецца з яе выдаўцамі, пасылае туды свае вершы, яна перапісваецца з Янкам Купалам, з якім асабіста пакуль не была знаёмая, але ведала яго вершы, як і Янка Купала ведаў яе вершы, захапляўся імі і напісаў верш "Аўтарцы "Скрыпкі беларускай", у якім выказаў гэта сваё захапленне.

Аднак перапіска з сябрамі не магла замяніць жывой сувязі са сваім краем, Цётка вельмі сумуе па радзіме, і гэты сум знаходзіць выйсце ў вершах, поўных тугі і смутку:

**Бягу думкай ў край далёкі,**
**У лес цёмны, ў лес высокі...**
**Ой, як мілы родны край,**
**Паляцеў бы, як у рай!**

І вось у 1911 годзе Цётка выходзіць замуж за Стэпонаса Кайрыса і, змяніўшы сваё прозвішча, вяртаецца на радзіму. Цяпер яна магла б звіць сваё сямейнае гняздзечка, адысці ад бурнага грамадскага жыцця, супакоіцца. Але гэта не ў натуры, не ў характары Цёткі, яна вярнулася на радзіму не для спакойнага жыцця, а для цяжкай, "мазольнай", як сама казала, працы. А праца гэта зноў -- для адраджэння Беларусі, для яе асветы, прычым, у любых формах.

Яна прымае ўдзел у вечарынах, якія наладжваюць беларусы ў Вільні, Пецярбургу, іншых гарадах, чытае на тых вечарынах свае вершы. Як артыстка выступае на сцэне Першага беларускага тэатра, і ўсе адзначаюць яе вялікі артыстычны талент, яна арганізуе нелегальныя беларускія школы, беларускія бібліятэкі. Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы, успамінала:

"Не раз Цётка, прыйшоўшы ў беларускую кнігарню на вуліцы Завальнай, дом N 7, і апынуўшыся сярод сваіх сяброў па працы на беларускай ніве, пачынала са шчырым запалам гаварыць аб удачах у рабоце, ганіць недахопы, раячы адразу, як іх перамагаць.

-- Вось ты, Юрка, паедзеш у Нова-Вілейку, -- гаварыла Цётка, -- там трэба дапамагчы наладзіць вечарыну, каб прыцягнуць больш людзей. А ты, Станкевічанка, -- звярталася яна да мяне, -- паедзеш у Гудзелі, там трэба адчыніць школку".

І гэта пры тым, што сама Цётка была цяжка хворая, блізкім, сябрам прызнавалася: "Дыхаю адным лёгкім, згараю на полымі любові да свайго краю..."

Яна не толькі сама хапалася за ўсё, што магло спрыяць развіццю беларускай культуры, уцягвала ў гэту дзейнасць сяброў і нават родзічаў. Яе родная малодшая сястра Караліна, якую я адведала ў свой час у вёсачцы Аляксандраў (у Польшчы, каля Лодзі), расказвала мне, як Цётка ўгаварыла яе танцаваць у беларускай самадзейнасці, і народны беларускі касцюм, у якім сфатаграфавана маладая Караліна, набываўся для той самадзейнасці. Яе аднадумцам па адраджэнню беларускай культуры быў і малодшы брат Юзік, які загінуў на фронце першай імперыялістычнай вайны.

У гэтыя гады Цётка акрамя вершаў пачынае пісаць і апавяданні, друкуе іх у часопісе "Маладая Беларусь", у беларускіх календарах, што друкаваліся ў выдавецтве "Загляне сонца і ў наша аконца". У пару, калі беларуская проза толькі нараджалася, такія апавяданні Цёткі, як "Зялёнка", "Асеннія лісты", "Лішняя", дапамагалі ёй станавіцца на ногі, а апавяданне "Міхаська" дасюль застаецца, на мой погляд, класічным творам.

Верная сваёй ідэі -- асвеце беларускага народа, якую Цётка паслядоўна ажыццяўляла, -- з вялікаю энергіяй узялася яна за работу над выданнем часопіса для дзяцей "Лучынка". Яна не была афіцыйным рэдактарам, але вяла ўсю работу па яе выданню. Вядомыя лісты, якія яна пісала то асобным аўтарам, то беларускім студэнтам у Пецярбургу з просьбаю -- прысылаць матэрыялы для "Лучынкі", давала тэмы, што цікавяць часопіс. Яна сама пісала вершы, нарысы, навуковыя артыкулы, якія сведчылі пра глыбокія веды Цёткі ў шмат якіх навуковых галінах. А найбольш клопат паэткі зноў -- прывіваць моладзі любоў да роднага краю, да роднай мовы. Родную мову Цётка лічыць "аптэкаю душы", у артыкуле "Шануйце роднае слова" яна піша: "На вас, моладзі, ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачаць свой народ знаннем і культурай".

Рэдакцыя часопіса "Лучынка" размяшчалася ў Мінску, на вуліцы Аляксандраўскай, і, як успамінае яе афіцыйны рэдактар А. Уласаў, кватэра рэдакцыі была адначасова і заезджым домам. А па пятніцах тут збіраліся паэты, празаікі. Цётка, "як феерверк", -- словы А. Уласава -- чытала свае вершы, іх ацэньвалі, крытыкавалі. Пасля моладзь адкрывала гульні. Пра беларускія пятніцы даведалася іншая інтэлігенцыя, што жыла ў Мінску, пачала сцягвацца на Аляксандраўскую вуліцу, і тут збіраўся цвет мінскай інтэлігенцыі.



Выданне "Лучынкі", жыццё беларускай інтэлігенцыі парушыла вайна. Дзяржаўныя ўстановы пакідалі Вільню, дзе жыла Цётка, шмат людзей пакіравалася ў бежанцы. Шпіталі, бальніцы горада поўніліся параненымі. Цяпер Цётка палічыла неабходным для сябе скіраваць туды, дзе найцяжэй, дзе яе веды і сэрца спатрэбяцца найбольш. Яна стала міласэрнай сястрою ў віленскім шпіталі.

І так -- усё жыццё, туды, дзе найцяжэй, дзе найбольш патрэбны яе рукі, яе сэрца. Спадарожнікі вайны звычайна голад, эпідэміі. І на радзіме Цёткі панавала эпідэмія тыфу. Прыехаўшы дадому, Цётка пачала хадзіць па хатах, каб нечым дапамагчы людзям. Сама не ўберагласся, захварэла на тыф і памерла. У сорак гадоў. Мільганула, як маланка, асвяціўшы цёмны, забіты край беларускі, абудзіўшы да жыцця сілы, што драмалі ў народзе, надаўшы беларусам веры, што яны -- народ і, як кожны народ, павінны шанаваць сваю гісторыю, сваю культуру, сваю мову.

Янка Купала казаў пра яе: "Акравак маланкі". Яе сябра, паплечнік Яўген Хлябцэвіч, успамінаючы Цётку, пісаў, што, нягледзячы на хваробу, яна была вясёлая, радасная, была незамінімым таварышам, заўсёды без грошай і ніколі не сумная. Другі сябра, Вітаўт Чыж, пісаў, што ўсе яе вельмі любілі за бескарыслівую таварыскую помач, што яна дзялілася апошнім кавалкам хлеба з тым, у каго была патрэба, што яе альтруізм даходзіў да самазабыцця і (трэба было пільнаваць, каб сама з'ела абед) усё, што мела, раздавала. Яшчэ адзін успамін Цётчынага паплечніка: "Падвышаная эмацыянальнасць характэрна для Цёткі. Праз усё жыццё Цётка па праўдзе гарэла і шыбка таялі яе сілы, каторыя так шчодра аддавала беларускай справе".

У вёсцы Стары Двор, пры дарозе, магіла Цёткі. На ёй помнік -- высокі гранітны крыж і шырока вядомыя радкі з яе верша:

**На магіле ўзыйду дубам,**
**Пачну шаптаць братнім губам**
**Аб іх долі, а свабодзе,**
**Стану песняй у народзе...**

Вакол магілы -- туі, клёны, бярозы. Сёлета, сёмага ліпеня, сюды прыйшлі землякі Цёткі, госці з Мінска -- пакланіцца святому для беларусаў месцу. У гарадзе Шчучыне адбылася канферэнцыя, прысвечаная стодваццацігоддзю з дня нараджэння Цёткі. Народ не забывае сваю паэтэсу, гэту яркую зорку на небасхіле беларускага адраджэння.

**Лідзія АРАБЕЙ.**

## НОВЫ ВЫПУСК "НАВАГРАДСКІХ ЧЫТАННЯЎ"

Першая навуковая канферэнцыя ў Навагрудку пад назвай "Навагрудскія чытанні" адбылася 18 мая 1991 года па ініцыятыве Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі, Гродзенскага абласнога і Навагрудскага раённага саветаў Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Гродзенскага навуковага таварыства гісторыкаў медыцыны і Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея. Яна была прымеркавана да 480-годдзя атрымання Навагрудкам магдэбургскага права і 160-годдзя з дня нараджэння Уладзіслава Борзабагатага -- кіраўніка паўстання 1863 года на Навагрудчыне. Матэрыялы гэтай навуковай канферэнцыі былі ўпершыню выдадзены асобнай кніжкаю ў 1993 годзе ў Навагрудку. Пасля выдаваліся другія і трэція "Навагрудскія чытанні", якія былі прысвечаны адкрыццю Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея і 740-годдзю каранацыі Міндоўга. У іх былі змешчаны цікавыя даклады беларускіх навукоўцаў, гісторыкаў і краязнаўцаў, якія даследуюць гістарычную спадчыну Навагрудчыны.

У верасні мінулага года адбыліся і чацвёртыя "Навагрудскія чытанні". Яны прысвячаліся 950-годдзю г. Навагрудка і 400-годдзю герба горада. Матэрыялы з гэтых чытанняў нядаўна пабачылі свет асобным выданнем, якое выйшла ў Мінску ў Беларускім выдавецкім таварыстве "Хата".

Зборнік адкрываецца артыкулам "Навагрудскія чытанні" -- нараджэнне традыцый" кандыдата гістарычных навук Васіля Кушнера. Усе астатнія матэрыялы складаюць тры раздзелы зборніка. Гэта "Гісторыя", "Краязнаўства" і "Музеялогія". У першым раздзеле аўтары апавядаюць пра гістарычныя падзеі і помнікі Навагрудчыны. Э.Зайкоўскі, Л.Дучыц, А.Цітоў, В.Швед, С.Сяльверстава-Куль змясціўна расказваюць пра першых славян і культавыя камяні Навагрудчыны, пра герб і пячаткі Навагрудка, пра ўдзел жыхароў Навагрудскага павета ў паўстанні 1830--1831 гадоў, пра культурнае жыццё Навагрудка ў першай палове XIX стагоддзя. Змешчана тут і шмат іншых цікавых і карысных артыкулаў вядомых нашых гісторыкаў.

Другі раздзел прысвечаны знакамітым і вядомым людзям зямлі Навагрудскай. Тут можна даведацца пра эстэтычныя погляды Яна Чачота, пра мастака, педагога і артыста Казіміра Стаброўскага, пра творы Адама Міцкевіча ў выяўленчай інтэрпрэтацыі Казіміра Альхімовіча, пра архімандрыта Фабіяна Абрантовіча, а таксама пра спевакоў з Навагрудчыны. Лідзія Савік, напрыклад, расказвае пра нашага знакамітага земляка Барыса Кіта. Дарэчы, напярэдадні Дня беларускага пісьменства і друку ў Навагрудку адбылася прэзентацыя яе кнігі пра Б.Кіта "Космас беларуса". Вельмі каштоўная і неабходная манаграфія -- даніна падзякі вялікаму вучонаму.

Трэці раздзел "Навагрудскіх чытанняў" прысвечаны музейнай справе. У ім выступаюць Т.Вяршыцкая, М.Гайба і А.Сітко.

Адным словам, выхад "Навагрудскіх чытанняў", як і правядзенне саміх навуковых канферэнцый у Навагрудку, -- добрая традыцыя і справа ў вывучэнні нашага роднага краю.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



**У раённым цэнтры Акцябрскі Гомельскай вобласці пастаянна дзейнічае выстава карцін. Значнае месца ў экспазіцыі займаюць работы земляка, ураджэнца вёскі Растоў Леаніда Дробава -- аўтара многіх манаграфій па мастацтву, доктара мастацтвазнаўства. Мастак часта наведваецца ў родныя мясціны, звычайна з адной з апошніх работ. Сёлета ж напярэдадні свайго 70-годдзя Леанід Дробаў перадаў для галерэі серыю сваіх работ, якія змогуць убачыць усе жыхары раёна.**

**НА ЗДЫМКАХ: Леанід ДРОБАЎ; у выставачнай зале галерэі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



# ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

А ўсё астатняе -- і ягоную прыгажосць (і непрыгажосць таксама), і яго зменлівы, няўлоўны воблік, -- усё таксама можна спасцігнуць і потым -- як будзеш мець болей часу. Але, бясспрэчна, не два тыдні.

За два тыдні ўхопіш адно кунсткамеру, надакучлівае шорганне падэшваў па бясконцых залах Эрмітажа, брудныя сметнікі ў дварах або падзівішся, як цурчыць з пэніса маленькага амурчыка ў Пецяргофе тоненькі струмок вады, і палічыш усё гэта бачаннем Пецярбурга -- адзіна дакладным і неаспрэчным.

Магчыма на які іншы еўрапейскі горад, напрыклад, Амстэрдам ці Барселону, можна пазіраць і так -- пахопкам і мімаходзь, -- бо тое, што ты там бачыш, -- не тваё жыццё -- чужое! -- хаця і прывабнае, -- і каб мець уяўленне пра гэтыя гарады, дастаткова, напэўна, некалькіх тыдняў і -- што верагодна -- дастаткова, напэўна, і тых слоў, якія сказаў пра іх Адам Глёбус.

Падкрэслю: пра гэтыя гарады, магчыма, і дастаткова. А вось з Піцерам -- пры ўсім жаданні Адама Глёбуса -- так не атрымаецца і не атрымалася. Чаму? Ды па той простай прычыне, што мы -- у тым ліку і аўтар -- ведаем яго трохі лепей, чым Амстэрдам ці Барселону: Піцер нам **не чужы**! -- гэта **наш** горад! -- нягледзячы на тое, што ў ім размаўляюць пераважна па-расейску, трохі па-ангельску, трохі па-нямецку або па-фінску і -- во дзіва! -- нават крыху па-беларуску! Адно не ў кунсткамерах і не сярод хмызоў Фінскага заліва, а там, дзе жывуць тыя людзі, якія карыстаюцца гаворкай, вельмі блізкай да гаворкі Адама Глёбуса.

Але трапляюцца яны стрэчнаму не так часта: яны тут робяць, жывуць, а па кунсткамерах ходзяць радзей (бо ўжо схадзілі), таму і праслізнулі не заўважанымі паўз вочы аўтара "рамана пра лёгкае расчараванне", аўтара, які палічыў патрэбным пазначыць на вокладцы, што проза ягоная друкавалася ў "Грузіі, Расеі, Украіне, Англіі, Асеціі, Нямеччыне, Ічкерыі". Вы зразумелі штонебудзь у гэтым пераліку? Дыяпазон, самі бачыце, вельмі шырокі, ды і геаграфія, дарэчы, цікавая: Ічкерыя мірна суседзіць з Нямеччынай, а Англія -- гэткім самым чынам -- з Асеціяй (пагадзіцеся, што калі б пералік адпавядаў або алфавіту, альбо таму, як гэтыя краіны размешчаны адна адносна другой, то спіс выглядаў бы не так пераканаўча; але што зробіш: "рэкляма" ёсць "рэкляма", і кожны "рэклямуе" сябе так, як умее, -- адпаведна густу).

Згодны, што гэта дробязі. Але яны з разраду тых, што нясуць у сабе характарыстыку не толькі пэўнага намеру, але і пэўнай пазіцыі аўтара. І калі б яны не мелі адносін да таго, пра што піша Адам Глёбус, я, магчыма, не стаў бы пісаць увогуле ні пра гэтыя дробязі, ні цалкам пра кнігу. Справа ў тым, што і ў "рамане пра лёгкае расчараванне", і ў іншых творах Адама Глёбуса (але не так яскрава, як у рамане) даволі выразна прагучала падсвядомая і напэўна не асэнсаваная аўтарам крыўда, што вось ён, Адам Глёбус (якога добра ведаюць і ў Нямеччыне, і ў Ічкерыі), на вялікі ягоны жаль, жыве (і нарадзіўся) не тут -- у Санкт-Пецярбургу, -- дзесь у Мінску (нарадзіўся ў Койданаве, а горш гэта ці лепш, мы пакуль не ведаем).

Можа, аўтар ніколі пра гэта і не думаў, нават не меў намеру выказаць сваю спантанную крыўду, але так атрымалася, што ён не здолеў схаваць яе -- крыўду правінцыяла, якому яшчэ ў маленстве паабяцалі цукерку -- Санк-Пецярбург, -- а потым, калі хлопец падрос, падсунулі замест яе ліпкую, спэцканую смеццем абгортку ад гэтай цукеркі.

У Барселоне ці Амстэрдаме гэткага з ім не здарыцца: там іншыя стандарты, і іншыя прысмакі, і калі параўнаць, умоўна кажучы, аповесць пра Пецярбург (бо да рамана твор усё-такі не дацягвае) з аповесцю пра Амстэрдам або Барселону, то робіцца відавочным той факт, што і ў Амстэрдаме, і ў Барселоне аўтар (ён жа -- галоўны герой усіх твораў, змешчаных у кнізе) адчувае сябе значна вальней, чым у Пецярбургу: адчувае сябе **"эўрапейцам"**, а не **"недасведчаным прафанам"** (цікава, а ці бываюць "дасведчаныя" прафаны?!). Адчувае сябе гэтак праз тое, што **"ў Расейскай імпэрыі ты працуеш, а ў Эўропе ты жывеш, бо нарадзіўся беларусам"** (стар. 203).

Па-першае, ці выцякае з таго, што ты, нарадзіўшыся ў Койданаве беларусам, можаш і здольны жыць (у сэнсе адэкватна і на поўную сілу адчуваць жыццё) толькі ў Еўропе? Логіка якаясь нелагічная, бо калі Беларусь геаграфічна і належыць да Еўропы, то яшчэ не кожны беларус з гэтай "Еўропы" -- ужо еўрапеец. Непераканаўча? Тады паслухайце самога Адама Глёбуса; ён вам раскажа, як ён **"жыве"** ў Еўропе: "І сапраўды, калі ты ў Амстэрдаме, сусветнай сталіцы дыяментаў, дык чаму ж не набыць скураны партфель? А таму, што ў мяне ёсць і партфель і валіза, зробленыя з скуры барсэлёнскага быка, што загінуў у карыдзе. Але гэта ў мяне, а вось у брата не было скураной валізы..." (стар. 201).

Вось вам і самая што ні на ёсць чысцюткая "Эўропа"! З самымі што ні на ёсць непадробнымі азіяцкімі плямамі на чысцюткай койданаўскай (прабачце, беларускай!) скуры!

Чаму ж ў Амстэрдаме ці Барселоне Адам Глёбус адчувае сябе "эўрапейцам", а ў Санкт-Пецярбургу -- не? Адказ вельмі просты: ды найперш таму, што ў гэтых гарадах **яго ніхто не ведае**, ён там нікому нічога не вінен, і ўсім, як кажуць, "да лямпачкі" -- у Амстэрдаме ён цяперака ці не.

З Піцерам гэткай адвольнасці (і волі!), прабачце, няма. Тут у Адама, як ён сам піша, толькі цётка, якая часцей за ўсё сядзіць дома і не ходзіць там, куды забрыдае Адам Глёбус. Але хто з пэўнасцю можа сказаць, каго можна сустрэць на піцерскіх вуліцах?

І страх, што "даследчык" Пецярбурга -- нечакана для сябе -- напаткае тут якога-небудзь земляка, або таго, хто хоць трошкі ведае ці чуў пра такога аўтара, -- якраз гэты, так і неўтаймаваны страх не дазваляе яму з гэткай самай лёгкасцю і самаўпэўненасцю, як у Барселоне, пазіраць на ўсіх з вышыні свайго койданаўскага інтэлекту і выдаваць сентэнцыі накшталт: "А краем цывілізацыі ўяўляецца Санкт-Пецярбург -- бедныя людзі, белыя ночы... брудная рака Нява (нібыта Свіслач чысцейшая?! -- **А.К.**)... Кунсткамера, двухгаловы чалавечы зародак у слоіку з фармалінам...".

Цікава, чаму Адам Глёбус, прыкмячаючы недарэчнасці, якіх шмат у любым горадзе, прайшоў паўз адну з іх, даволі відочную, -- паўз паліраваную каменную вазу ў Летнім садзе, разы ў тры вышэй чалавечага росту, якая сапраўды здаецца недарэчнай, як ты на яе ні пазірай. Яна стаіць пры ўваходзе ў сад -- стаіць незразумела нашто -- і ніяк не стасуецца ні з маленькім возерцам, у якім улетку плаваюць белыя лебедзі, ні ўвогуле з усёй планіроўкай уваходу ў Летні сад.

Але варта перайсці дарогу і, апынуўшыся на тым беразе Мойкі, падняцца хаця б на прыступкі Міхайлаўскага палаца (не абавязкова заходзіць у сам палац, хаця адтуль відовішча яшчэ больш пераканаўчае) і зірнуць у бок Летняга саду, як усё адразу становіцца на сваё месца: па-першае, ты пачынаеш разумець, што на вазу і трэба глядзець толькі адтуль -- яна ўзвышаецца трохі над возерцам, запаўняючы сабой пэўную частку воднай прасторы, і ледзь не да міліметра суадносіцца з невысокай каванай агароджай, невялічкім пляцам перад вазай, а завяршаюць гэты краявід густыя шаты клёнаў і ліп -- рукатворны дыямент з каменю ў атачэнні жывой прыроды! І калі ты паклапаціўся зрабіць гэтыя некалькі крокаў, то ўзнагародай табе будзе асабістае здзіўленне, вартае адкрыццю... ну, скажам, табліцы Мендзялеева: "Як жа я не дадумаўся да гэтага раней?! Гэта ж так проста і натуральна!"

І такіх нібыта знарок прыхаваных "сакрэтаў" раскідана па Піцеры шмат -- адно трэба ўмець шукаць іх. Але адшуквае, напэўна, толькі той, хто шукае, хто хоча зразумець, нашто тут гэты горад і які ён.

Ёсць яшчэ адно тлумачэнне, чаму Піцер не спадабаўся Адаму Глёбусу. Справа тут не ў Піцеры, а ў тым чалавеку, які яго вывучае або знаёміцца з ім. Асаблівасцю Пецярбурга было і застаецца тое, што ён ніколі не здраджваў (і дагэтуль не здраджвае!) сабе: **ён не любіць падабацца тым, хто любіць адно сябе**. Каб Піцер раскрыўся перад табой, трэба -- як неадменная ўмова! -- **каб спачатку ты** (!) спадабаўся яму. А тады ўжо ў знак павагі да цябе -- ён раскрые ўсе свае таямніцы. Амаль усе, калі ты гэтага жадаеш.

Адам Глёбус не пакрывіў душой, калі апісваў свае бадзянні па Піцеры, гэтаксама, як і па Амстэрдаме. Але там, за мяжою, ён знайшоў тое, што шукаў, -- свабоду выказваць свае думкі, не клапоцячыся аб тым, адпавядаюць яны ісціне альбо не. Там ён -- на кані! А ў Піцеры ўсе коні -- нават мядзяныя -- даўно занятыя -- хіба скінеш каго?!

Каб вывучыць Пецярбург, патрэбна шмат часу. І А.Глёбус гэта добра разумее, таму і назваў свой раман "Раманам пра лёгкае расчараванне" (дзякуй Богу, што яшчэ "лёгкае"!). Аднак разуменне гэтага не спыняе яго: ён лічыць, што "недасведчаным прафанам" -- гэта значыцца, нам, чытачам! -- хопіць і таго, што ён убачыць або скажа, -- такі вось ён суперзнаўца і супердаследчык, якому дастаткова і аднаго позірку, каб усё спасцігнуць і зразумець! Зайздросная мэта і зайздроснае ўмельства. Але, спадзяюся, А.Глёбус -- яшчэ не лорд Байран і не паручнік Лермантаў. У тых за плячыма быў іншы і адукацыйны, і культурны багаж. А шаноўны аўтар, "ничтоже сумняшеся", піша і гаворыць так, нібыта таксама яго мае. Але калі наконт Амстэрдама мы яшчэ можам паверыць яму, хаця і з вялікай нацяжкай, то з Піцерам гэтак, прабачце, не атрымаецца.

Калі б Адам Глёбус быў прыватнай асобай, то гаворкі гэтай увогуле не было б. Аднак ён пісьменнік (друкаваўся, як мы ведаем, у Грузіі і Ічкерыі) і -- як кожны пісьменнік -- прэтэндуе на неабвержнасць і канчатковасць свайго бачання свету. Але ці заўсёды неабвержнасць і канчатковасць з'яўляюцца ісцінай у апошняй інстанцыі? Колькі празаікаў і паэтаў спрабавалі ў сваіх творах адлюстраваць воблік гэтага непаўторнага, непазнавальнага горада! Але кожны з іх (пры таленце, бясспрэчна, большым, чым у таго, пра каго мы гаворым) здолеў увасобіць у слова толькі нейкую частачку, якая адкрывалася ягонаму зроку, -- адзін бок горада, -- а другі, трэці, чацвёрты... -- хто ведае, колькі іх ёсць на самай справе?! -- хтось іншы. Аднак цалкам -- не здолеў ніхто. І Адам Глёбус -- не выключэнне. Ён толькі яшчэ раз -- не будзем казаць, удала ці не, -- падмацаваў агульнае правіла, не больш таго.

І вось тут якраз дарэчы пагартаць другую кніжку -- "Дамавікамэрон". Калі коратка і жартам, то "Дамавікамэрон" -- кніжка для хлопчыкаў ("недасведчаных прафанаў"), якія яшчэ не ведаюць, што такое жанчына. Казаць, што гэта літаратура, -- даволі рызыкоўна, хаця сусветная скарбонка прыгожага пісьменства мае не адзін прыклад такога (ці падобнага) асвятлення жыцця.

Але калі, скажам, "Дэкамерон", ад якога адштурхнуўся А.Глёбус, -- чыстая класіка (у сэнсе чыстая па жанру), то "Дамавікамэрон" -- ці не пародыя на гэты да няўдзячнасці каварны жанр?!

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

**Працяг.**
**Пачатак у NN 35—36,38.**

# У ВЕЧНЫМ ГОРАДЗЕ ЧАЛАВЕК — З'ЯВА ЧАСОВАЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Што ж тычыцца мастакоў былога СССР, дык яны заўсёды лічылі за раскошу дастаць або атрымаць ад сяброў у падарунак кнігу высакаякасных рэпрадукцый, набор паштовак з відамі гарадоў-помнікаў або мастацкіх твораў, па якіх яны завочна знаёміліся і вывучалі вечныя гарады і шэдэўры сусветнага мастацтва.

Менавіта таму мажлівасць нашых мастакоў наведаць Рым можна лічыць сапраўды падзеяй. Наогул Мікола Купава лічыць, што гэта першая творчая паездка беларускіх мастакоў за апошнія больш як 200 гадоў. З 1763 па 1784 год у Акадэміі мастацтва Св.Лукі ў Рыме вучыўся, а потым працаваў наш суайчыннік Францішак Смуглевіч.

Уся праграма Міколы Купавы ў вечным горадзе была непасрэдна звязана з мясцінамі, дзе некалі жылі, працавалі і тварылі нашы слынныя землякі. Ён прайшоў па слядах Адама Міцкевіча, Язэпа Руцкага, Іпація Пацея, наведаў уніяцкі кляштар Маці Божай Жыровіцкай. У Ватыкане, у базыліцы Св.Пятра, пашчасціла пабачыць саркафаг уніяцкага біскупа святога Язафата Кунцэвіча. Шмат уражанняў пакінулі мясціны, звязаныя з вядомым паэтам Міколам Гусоўскім, які на пачатку XYI стагоддзя працаваў сакратаром у пасла Вялікага Княства Літоўскага Эразма Вітэліуса. Ён доўгі час падтрымліваў таленавітага беларуса спачатку на бацькаўшчыне, а потым узяў з сабой у Італію. Дарэчы, якраз у Рыме была напісана яго знакамітая "Песня пра зубра".

Відавочна, не толькі мясцінамі, звязанымі з беларусамі, абмяжоўвалася знаходжанне нашых мастакоў у Рыме. Яны наведалі шмат славутых мясцін горада, сярод якіх нельга не згадаць Калізей, Сіксцінскую капэлу, сабор Св.Пятра. Можна толькі здагадвацца, якія ўражанні атрымалі ад знаёмства з вечным горадам. Міхась Баразна ўвогуле зрабіў для сябе ў Рыме своеасаблівае адкрыццё.

-- У Італіі высветлілася, што архітэктура хрысціянскага часу больш прыцягальная для мяне, чым антычнасць. Бясспрэчна, Калізей уражвае сваімі фундаментальнымі формамі. Аднак хутка пачынаеш адчуваць, што зроблены ён для відовішчаў, уцех, нарэшце, забойстваў. На фотаздымках Калізей больш кідкі, вонкава прывабны, але я зразумеў, што сабор Св. Пятра па духу мне бліжэй. Паездка шмат дала мне і як выкладчыку кафедры архітэктуры і мастацтвазнаўства Беларускай акадэміі мастацтваў. Мяркую выкарыстоўваць здымкі, зробленыя ў Рыме, на сваіх лекцыях (акрамя класічных здымкаў у нашых падручніках), каб нашы студэнты мелі лепшае ўяўленне аб помніках антычнасці і сярэднявечча ў Рыме.

Відавочна, што дзесяць дзён недастаткова, каб пазнаёміцца з усімі каштоўнасцямі вечнага горада, тым больш, што акрамя вандровак па Рыму трэба было рабіць замалёўкі, фатаграфаваць. Тым не менш сцяжынка да вечных гарадоў ужо пратаптана, і ёсць спадзяванне, што зарасце ўжо не хутка. Пераможцы конкурсу вечных гарадоў — Афін і Іерусаліма збіраюцца ў вандроўку, а Мікола Купала і Міхась Баразна, поўныя ўражанняў і творчых планаў, распачалі падрыхтоўку да сваіх персанальных выстаў, якія мусяць адбыцца ў наступным годзе.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**P.S. Мікола Купава і Міхась Баразна выказваюць шчырую падзяку Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Італіі ў Рэспубліцы Беларусь спадару Жану Луке Берцінета за садзеянне ў афармленні выязных дакументаў у Італію.**



**Падворак Мастацкай акадэміі Св. Лукі ў Рыме, дзе з 1773 па 1784 год вучыўся і працаваў Францішак СМУГЛЕВІЧ.**

*НА ВЫСТАВЕ "ЧАРОЎНЫ СВЕТ"*

# ПЕЙЗАЖЫ МРОЙНЫХ КРАІН



На Беларусі шэрае, халоднае надвор'е. Змрочна. Тым больш усведамляем каштоўнасць твораў мастацтва, а душа поўніцца ўдзячнасцю ад дотыку свята й лагоды, што точацца з іх -- твораў, сапраўды жывых, з ласкай Божаю, адкрытых кожнаму, хто сустрэнецца з імі. Гэтыя творы змясціліся на вельмі кароткі час у мурах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі на выставе "Чароўны свет". Што ж бачыць глядач на карцінах у зале? Бачыць ён пейзажы мройных краінаў, дзе вуркочуць вяргіневыя вулканы, ліюцца валошкавыя вадаспады, песцяцца ў кветках смарагдавыя даліны, іншыя ж краявіды вельмі нагадваюць родныя абшары. Ёсць у гэтых краявідах і маляўнічасць, і настрой. Вока гледача можа цешыцца і бессюжэтнаю гульнёю фарбаў... Матылі ўюцца ў святле старасвецкай газавай лямпы, пастаўленай на абрус з махрамі -- нацюрморт... Прыгажуня пазірае вабным вокам, засланіўшыся веерам. Іншая дазваляе любавацца на сябе і на свае шыкоўныя строі з дарагога вэлюму, ядвабу й аксаміту. Адчуваеш кшталт тканіны -- празрыстасць, пругкасць альбо мяккасць. Цэлая серыя такіх партрэтаў... Пейзаж, нацюрморт, партрэт... Фарбы сакавітыя, празрыстыя, лёгкія. Але чаму гэта павінна здзіўляць? А таму, што калі б удалося ў літаральным сэнсе раскласці гэтыя фарбы і мазкі, яны сталіся б не чым іншым, як сухім капусным лістом, кукурузнай лускай, мохам, зёлкамі і пялёсткамі, пялёсткамі кветак. Адным словам -- фларыстыка. Найбольш здзіўляе, што нічога з гэтага прыроднага матэрыялу не выцінаецца, не выразваецца, не папраўляецца нажніцамі ці іншым інструментам, каб надаць пажаданую форму. Таму што з гэтымі сухімі раслінамі ўступае ў сумоўе і гульню разняволеная фантазія, якою адораны творца гэтых карцін. У пялёстках, засохшых так, як ім, пялёсткам, захацелася, творца бачыць і птушку, і поле, і зорку. З мноства такіх пялёсткаў "малююцца" карціны -- чароўны свет.

Маю засведчыць, спасылаючыся на думку высокапрафесійнага мастацтвазнаўцы, што на Беларусі нараджаецца новы від мастацтва, падабенства якому няма ў свеце. Хто ж аўтар гэтых твораў, хто стаіць ля вытокаў гэтага мастацтва? Калі ласка, знаёмцеся: спадарыня Шымук Дзіна Мікалаеўна. Аўтарка твораў не ёсць прафесійным мастаком. Гэта з'ява з таго шэрагу, што завецца самародкавым. Прафесійна ж спадарыня Шымук займаецца музеязнаўствам, дакладней -- займалася, бо цяпер не працуе, у заслужаным адпачынку. Рухавая, абаяльная, густоўная, з п'янкім шармам -- ніяк выгляд гэтай жанчыны не стасуецца з пашпартным узростам. У музейных колах нашай краіны імя яе добра вядомае: Дзіна Мікалаеўна, таленавіты экспазіцыянер, шмат каму дапамагала ствараць музейныя экспазіцыі. Адукацыі тэатральная і гістарычная шчасліва спалучыліся ў яе працы. Спадарыня Шымук была сярод удзельнікаў кангрэса ICOM, Міжнароднай арганізацыі музеяў, які ўставаў свята, што адзначаецца 18 мая -- Міжнародны дзень музеяў. Больш за дваццаць гадоў жыцця аддала Дзіна Мікалаеўна музейнай справе. Дарэчы, як сведчаць яе калегі, гэтая пані сапраўды неардынарная асоба: займаючы кіруючую пасаду, яна мела адвагу адстойваць уласныя погляды на жыццё і людзей у кабінетах і калідорах улады, ва ўласная думка не абавязкова супадала з агульнапрынятым ідэалагічным курсам.

Калі ж выявіўся своеасаблівы мастацкі дар? Дар гэты адкрыўся ў канцы 80-х. Аднойчы паехала Дзіна Мікалаеўна да сяброў у Вільню, каб паглядзець спектакль у тэатры Някрошуса, папіць кавы ў віленскіх кавярнях ды падыхаць паветрам нашай старадаўняй сталіцы. І вось тады ўбачыла спадарыня ў крамках шматлікія паштоўкі з выявамі букецікаў, выкладзеных з сухіх кветак. Уразілі яе тыя букецікі. Неўзабаве падобныя паштовачкі з'явіліся і ў Мінску. Былі яны мілымі, прыгожа скампанаванымі, не больш за тое, але дзіўна хвалявалі Дзіну Мікалаеўну. Яна, нарэшце, сама склала кампазіцыю з сухіх кветак на аркушы паперы. Атрымалася няпэўна. Усе яе калегі і каляжанкі па працы былі абдораны такімі карцінкамі. І раптам праз кароткі час адбыўся выбух творчасці. Забуяла фантазія. Стварaліся сапраўдныя карціны. Калі глядзець здалёк, яны нагадвалі акварэль. Тэхніка, зразумела, зусім іншая, але не менш тонкая і складаная.



Творы спадарыні Шымук экспанаваліся на выставах у Швецыі, Нарвегіі, Літве. Адна з карцін набытая карціннай галерэяй горада Намсос, што ў Швецыі. Музей прыроды і экалогіі ў Мінску, краязнаўчы музей у Маладзечне таксама маюць у фондах творы гэтай фларысткі. Многія іншыя аздабляюць інтэр'еры прыватных асобаў у Японіі, Францыі, Ізраілі ды і ў нас, у Беларусі.

У пачынальніцы новага накірунку мастацтва ёсць праблемы рознага кшталту. Найперш, у абароне аўтарскіх правоў. Здавалася б, прыстойныя людзі зрабілі слайды з твораў мастачкі і выдалі прыгожы насценны каляндар. Аўтарка ж у тым календары ўспамінаецца як укладальнік тэксту. Пра якія-небудзь ганарар ніхто і не ўспомніў. І гэта не адзіны прыкры выпадак. Не ўмее чалавек абараняць сябе.

Затое ўмее, і вельмі шчодра, дзяліцца светлай энергіяй сваёй душы. Дзякуй Вам, спадарыня Дзіна!

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Д. ШЫМУК і яе працы.**





*СПОРТ*

ТЭНІС. За апошнія гады інтэрнацыянальная пара Наталля Зверава (Беларусь) – Джыджы Фернандэс (ЗША) практычна не ведае паражэнняў. Вось і на адкрытым першынстве Амерыкі, якое нядаўна завяршылася, гэты дуэт выйграў ва ўсіх сваіх саперніц.

ХАКЕЙ. Стартаваў другі чэмпіянат Усходне-Еўрапейскай хакейнай лігі. У адрозненне ад мінулагодніх спаборніцтваў склад каманд значна памацнеў. Да іх далучыліся мінскае "Цівалі", кіеўскі "Сокал"... І таму барацьба за прызавое месца чакаецца вельмі напружаная.

На старце дамагліся поспеху беларускія клубы. Так, гродзенскі "Нёман" перамог алімпійскую зборную Польшчы – 9:1 і 4:2, "Цівалі" абыграў землякоў з "Юнацтва" – 9:2 і 6:0. Але рэкорд паставіў навапалацкі "Палімір", які з буйным лікам 14:0 нанёс паражэнне літоъскай "Энергіі" з Электраная.

## ДЫВАНЫ АЛЕНЫ КІШ

Алену Кіш, сялянку з вёскі Леніна Слуцкага раёна, Бог надзяліў талентам мастака, які не змаглі загубіць ні беднасць, ні адсутнасць адукацыі.

У вольны час Алена яркімі фарбамі, мудрагелістымі ўзорамі размалёўвала тканіны, што замянялі ў сялянскіх хатах дываны. За гэта самадзейную мастачку называлі паважліва -- дываніха, а спецыялісты ўнеслі яе імя ў "Сусветную энцыклапедыю прымітыўнага мастацтва".

Спаўнілася 100 гадоў з дня нараджэння таленавітай майстрыхі. Да гэтай даты Капыльскі краязнаўчы музей арганізаваў выставу твораў Алены Кіш. Усяго іх знойдзена трынаццаць, а даследчыкі сцвярджаюць, што жанчына пакінула як мінімум тры сотні карцін на тканінах. Яшчэ адзін дыван, як мяркуецца, пэндзля гэтай мастачкі, быў знойдзены ў адным з дамоў вёскі Конюхі ў той дзень, калі ўдзячныя капыляне ўскладалі кветкі на магілу Алены Кіш.


**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**





**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 985. Падпісана да друку 23. 9. 1996 г. у 12.00 . Рэгістрацыйнае пасведчанне N 81.**